# Праца піонэр-організацыі ўлетку.

Надыходзячае лета 1926 г. паставіць перад піонэр-організацыяй як у горадзе, так і ў вёсцы, шэраг зусім новых заданьняў, высуне шэраг зусім новых форм працы.

У гэтым артыкуле мы пастараемся вызначыць прынцыпы і формы летняе працы піонэрскае організацыі.

Асноўны лёзунг, з якім мы падыходзім да летняе працы, такі: не паслабляючы грамадзянскае дзейнасьці організацыі, старацца аздаровіць дзяцей. Няправільнай будзе пастаноўка пытаньня ў гэтым, калі мы будзем разважаць, што павінна мець перавагу: праца грамадзянская ці праца па аздараўленьні. З вызначанных ніжэй форм некаторыя часткаю могуць быць выкарыстаны для вёскі, асаблівыя-ж рысы вясковае працы мы пастараемся высьветліць пасобку.

## Унутры організацыі.

Раней усяго—прынцыповая пастаноўка пытаньня павінна быць гэткаю: памагчымасьці больш ажывіць працу, зьнішчыць лішнюю сухаць і сур'ёзнасьць, якія пранікліў організацыю, і стварыць для піонэраў абставіны (разам з грамадзянскаю працаю) разумных забаў і выяўленьня творчых сіл.

## Скарыстаньне прыроды.

У гэтым годзе, прымаючы пад увагу слабое здароўе піонэраў, асабліва патрэбна паставіць правільнае скарыстаньне сонца, паветра і вады. У пачатку лета, пры дапамозе дактароў, павінны быць вызначаны найменшыя і найбольшыя формы знаходжаньня піонэраў у вадзе, у лесе, на сонцы. Заданьне атраду—пільна сачыць за выкананьнем піонэрамі гэтых правіл.

Мэтоды скарыстаньня прыроды павінны быць розныя. З іх адзначым некаторыя: індывідуальнае карыстаньне прыродай па вызначаных правілах, колектыўнае карыстаньне—як прагулак за горад з увядзеньнем фізкультуры, купаньня, вотдых на сонцы і г. д. Начлегі (на 1-ну ноч) у палатках на спэцыяльна выбраным, адпавядаючым усім мэдыцынскім умовам месцы.

Пры правільнай пастаноўцы гэтае справы піонэрская організацыя даб'ецца вельмі значных вынікаў у сэнсе аздараўленьня піонэраў*).

*) У гэтым артыкуле мы не застанаўліваемся на конкрэтных пытаньнях пабудовы прагулак, начлегаў. Гэта часткова высьвятлялася ў прашоўшым годзе, часткова будзе высьвятляцца далей.

## Фізкультура, элемэнты зарадовых практыкаваньняў.

Пытаньне аб скарыстаньні прыроды цесна зьвязана з пытаньнем пастаноўкі фізкультуры ў атрадах. Летняя фізкультура ў атрадзе павінна, галоўным чынам, грунтавацца на прынцыпах скарыстаньня прыроды і наладжвацца ў выглядзе прыродных рухаў. Калі робяцца прагулкі, можна правадзіць на хаду лёгкія практыкаваньні, бегаць, скакаць праз канавы і г. д. Можна пералазіць праз ляжачыя дрэвы, а іншы раз праз платы, лазіць на дрэвы, поўзаць пад кустамі. Апроч таго, што такая форма фізкультуры спрыяе ўсебаковаму разьвіцьцю піонэраў, яна таксама ў значнай меры прывучвае дзяцей к элемэнтам тактыкі хадзьбы.

На гэтых формах фіз-практыкаваньняў абмежавацц нельга. На працягу гэтага лета неабходна прывучыць піонэраў праводзіць штодзенна, па спэцыяльна апрацованых програмах зарадовыя практыкаваньні (гімнастыка раніцою, абціраньне, беганьне і г. д.). Калі ўдасца ў дадатак да ўсяго гэтага прывучыць піонэраў к фізкультурнай гігіене (правeтрываньне, трыманьне ў чыстаце кватэры, адзежы і цела і г. д.), заданьні піонэраў па аздараўленьні будуць выканаваны. Між іншым, у сувязі з увядзеньнем гэтых элемэнтаў мы лічым патрэбным зрабіць гігіенічную адзежу для піонэраў—як для хлопчыкаў, так і для дзяўчатак.

Па нашай думцы, адзежа павінна быць гэткаю: цёмныя трусікі, сьветлая рубашка і легкі абутак (сандалі). Як з пункту погляду фізкультуры, так і з пункту погляду выхаваньня, для хлопчыкаў і дзевачак гэтая адзежа будзе вельмі карыснай.

## Колектыўнае выпярэдніцтва (спаборніцтва) (сараўнаваньне).

З мэтай унясеньня рухавасьці, падліку вопыту і збліжэньня піонэраў, зусім магчыма правесьці 1-2 колектыўныя выпярэдніцтвы зьвеньняў па фізкультуры. Практычна гэта можна правесьці наступным парадкам; аднолькавыя па складу зьвеньні, якія атрымалі аднолькавыя зарадавыя програмы і праводзяць розныя практыкаваньні, на раённым, гарадзкім зборы піонэраў паказваюць свае дасягненьні. Магчыма ўнясеньне такіх элемэнтаў, як выпярэдніцтва ў бягу, скаканьні, лазаньні, кіданьні і г. д. Таксама з старэйшымі зьвеньнямі дапушчаецца правядзеньне гульняў па выпярэдніцтву (баскет-бол).

(Працяг на 3 старонцы вокладкі).

2-гі ГОД ВЫДАНЬНЯ




УМОВЫ ПАДПІСКІ:
на 12 м. . . 2 р. 40 к.
на 6 м. . . 1 р. 20 к.
на 3 м. . . — 60 к.
на 1 м. . . — 20 к.

ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ
ОРГАН
ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
Менск, Пляц Волі,
Наркамасьветы БССР
— тэлефон № 443. —

№ 3. САКАВІК 1926 г.



# VII Усесаюзны зьезд комсамолу аб піонэрскім руху.

*(Артыкул старшыні ЦБ ЮП тав. Адзінца).*

Пасьля адзінаццаці дзён, 22 сакавіка, закончыў у Маскве сваю напружную працу VII зьезд Усесаюзнага комсамолу.

Паміж шэрагу іншых пытаньняў абгаварвалася й пытаньне аб „Чарговых задачах дзіцячага комуністычнага руху“, дзе было адзначана шмат дасягненьняў, шмат недахопаў і намечаны шляхі далейшага разьвіцьця піонэрскай організацыі Савецкага Саюзу.

Адно з буйнейшых дасягненьняў паказваюць лічбы ўзросту. Калі да VI зьезду Усесаюзнага комсамолу піонэраў было толькі 200.000, то к VII Усесаюзнаму зьезду мы маем паўтара мільёна з лішкам і больш за 200.000 акцябрат.

Піонэрская організацыя мае вялікія дасягненьні ў галіне абхопу дзяцей рабочых, сялян, служачых, у галіне ўцягненьня піонэр-атрадаў у грамадзка-карысную працу: у працу школ, дзіцячых дамоў, разгортваньне працы ў вёсцы.

Зьезд, адзначаючы шмат недахопаў у піонэрскай працы, даў належны кірунак, які паможа аздаравіць нашу працу.

Агульны ўздым як комсамолу, так і розных пролетарскіх організацый захапіў сабой і піонэрскі рух. Маючы ўздым у руху дзяцей, мы яшчэ, к вялікаму жалю, ня маем належнай і выстарчаючай увагі піонэрскай працы з боку комсамолу й партыі.

*Зьезд сказаў, што далейшае палепшаньне якасьці працы сярод піонэраў магчыма пры яшчэ большым падтрыманьні з боку партыі й комсамолу піонэрскага руху.*



Генэральны сакратар ЦК Усес. ЛКСМ т. ЧАПЛІН.

Замала зьвярталася ўвагі на падбор актыву на піонэрскую працу, шмат было выпадкаў, калі пасылалі не працаздольных, ня маючых ніякіх ведаў і тых, якія лічылі піонэрскую працу не асабліва паважнай. Ад гэтага выплывала няўмелае кіраўніцтва і нядобры падход да працы.

Складанасьць піонэрскай працы з яе асаблівасьцямі пры гэтакіх умовах яшчэ больш паглыбляецца. *Па гэтаму VII Усесаюзны зьезд кажа, што на піонэрскую працу патрэбна высоўваць лепшыя партыйныя й комсамольскія сілы, патрабуючы ад піонэрпрацаўнікоў вялікіх ведаў і пэдагогічных навыкаў.*

Усім нам вядома, што ў сваёй ранейшай працы піонэрская організацыя мела такі ўхіл у сваім разьвіцьці, які мы цяпер называем „барабаншчынай“.

Гэта было, калі мы хадзілі ў лягеры ў лес, якія былі дрэнна абстаўлены з прычыны адсутнасьці належных сіл і сродкаў. Таму мы наглядалі прастуду піонэраў, гразь, розныя хваробы і г. д. Пры такіх умовах зьяўляліся „выскачкі“, піонэры, якія любяць займацца мітынгоўшчынай, паўтараць голыя высокія сказы: „Мы, таварышы, бароліся і г. д.“

Калі наша партыя й саюз пачалі выжываць такія непажаданыя ўхілы, то зьявіўся другі ўхіл у бок адмаўленьня ад яскравых, жывых форм працы сярод піонэрскай дзетвары. Пачалі запазычаць пляны і мэтоды працы комсамолу, праводзячы зборы атрадаў з вялікімі сухімі абвесткамі дню, выбарамі прэзыдыуму, дакладамі і г. д.

Разам з гэтым, у нашай піонэрскай організацыі ня было ніякай плянавасьці ў матэрыяле, які даваўся ў працы атрадаў. Заўсёды гаварылі аб адным і тым-жа, як сёньня, так і ўчора, як учора так і сёньня.

Маючы такія недахопы ў сваёй працы, мы заўважалі нездаволеньне дзяцей работай піонэрорганізацыі. Дзеці пробуюць сваю актыўнасьць выяўляць праз організацыю розных самастойных гурткоў, зборышчаў (Жультрэст, вячоркі і г. д.).

*Усесаюзны зьезд указаў на неабходнасьць ажыўленьня й палепшаньня працы піонэрскай організацыі. Прыстасаваньня працы да асаблівасьцяй і запытаньняў піонэрузросту. Весьці барацьбу з элемэнтамі казёншчыны, зьвярнуць вялікую ўвагу на разьвіцьцё яскравых, жывых, цікавых момантаў у працы. На організацыю новых масавых гульняў. На правільнае скарыстаньне вольнага часу піонэраў.*

*Аддаць шмат увагі „культурным запатрабаваньням піонэраў, іх імкненьню к рознага роду тэхнічным ведам (сельск.-гасп., радыо, авіо і г. д.), дапамагаючы знаёміцца з належнай літаратурай, прыцягваючы да гэтай справы сьвядомых людзей. Разьвіваць большую самадзейнасьць звеньняў, пашыраючы рамкі іх самастойнай працы (экскурсіі і г. д.).*

*Вызначыць асноўны абхват ведаў піонэраў аб піонэрах, аб ЛКСМ, аб партыі, трудавых, санітарных і іншых навыках, якіх піонэры павінны атрымаць за час знаходжаньня ў атрадзе. Пабудаваць зьмест працы па прынцыпу ўзросту дзяцей і іх разьвіцьця.*

*У працы сярод неорганізаваных дзяцей перайсьці ад форм „сяброўства“ к сыстэматычнай працы, уцягваючы дзяцей у практычную грамадзянскую працу, дапамагаючы ў іх імкненьні да розных ведаў і практычнаму скарыстоўваньню атрыманых ведаў. Організоўваць адпачынкі для дзяцей.*

Тэндэнцыі злучэньня піонэрскага руху са школай і дзіцдамамі вядуць на справе к ліквідацыі піонэрскай організацыі, як масавага руху дзяцей.



Сакратар ЦК ЛКСМБ т. Бараньнікаў.

Зьезд катэгорычна адмовіўся ад гэтага, заявіўшы, што *дзіцячы рух, зьяўляючыся адзінай масавай дзіцячай комуністычнай організацыяй пры УЛКСМ, ставіць сваёй мэтай комуністычнае выхаваньне шырокіх мас дзяцей працоўных на падставе разьвіцьця іх самадзейнасьці й сплачэньня вакол партыі й комсамолу. Будаваць сваю працу на актыўным удзеле дзяцей у грамадзянскай працы, у барацьбе й будаўніцтве рабочае клясы пад непасрэдным кіраўніцтвам партыі й комсамолу.*

Заўважаецца, што піонэры паза атрадам і па выхадзе з яго перастаюць выконваць атрыманыя ў атрадзе навыкі, устаноўленыя правілы. Губляецца піонэрскае дастоінства і адпаведнасьць за трыманьне сябе.

*Зьезд сказаў, што патрэбна прыняць усе меры, каб піонэры, якія паступаюць у комсамол, пераносілі ўсе лепшыя звычаі й навыкі ў комсамольскую ячэйку, рашуча змагаючыся супроць такіх зьявішчаў, калі піонэркомсамолец перастае прытрымоўвацца законаў і звычаяў піонэраў (курэньне, алькоголь і г. д.).* **М. Адвінец.**

# Адрывак з вершаў „комсамолія“.

...І яны, яны—комсамольцы.
Ім ня страшна адкрытая сьмерць,
Іх аружжа выстралам моліцца,
Кліч іх гучны—наўкола глядзець!

І у полі пад градам шрапнэлі,
Захіліўшы ў чырвоны сьцяг,
Марш хаўтурны ня раз ім пелі
І хавалі пад звон—„тра-ра-рах!“

Тады раць іх спраўляла трызну
Набіралася сьмеласьці, сіл...
Комсамолію—вольну айчыну—
Ня спужаць міліёны маглі.

Комсамолец—закалены гартам,
Комсамолец—бунтарскі дух;
Адзін кліч—стане новая варта,
Адзін кліч толькі—„зьмену рыхтуй“.

**Міхась Чарот.**

# ПІОНЭРРУХ І ШКОЛА.

*(Артыкул загадчыка галоўсоцвыху *) Наркамасьветы БССР т. Мазура).*

**„Усе мэты навучаньня належыць ставіць так, каб кожны дзень у любой вёсцы, у любым горадзе моладзь вырашала практычна тую ці іншую мэту агульнае працы, няхай самую маленькую, няхай самую просьценькую“. ЛЕНІН.**



Юныя піонэры—гэта дзеці якія йдуць па шляху Комуністычнае партыі, па шляху Ўладзімера Ільліча Леніна. У чымжа галоўная сутнасьць таго шляху, па якім ідзе Комуністычная партыя і па якім ішоў яе правадыр, таварыш Ленін?—Галоўная сутнасьць гэтага шляху ў тым, каб ва ўсім сьвеце зьнішчыць панаваньне буржуазіі і заснаваць уладу рабочых і сялян. Рабочы й селянін Саюзу Савецкіх Рэспублік, дзякуючы кіраўніцтву Комуністычнае партыі, у кастрычніку 1917 году скінуў з сябе ўладу буржуазіі і паноў і вось ужо дзевяты год як ён свабодна кіруе сваёй дзяржавай, як ён свабодна будуе сваю гаспадарку.

Шмат ужо чаго дасягнута ў гэтым напрамку! Шмат чаго зроблена! Адбудаваны фабрыкі, паднята амаль да даваеннай вышыні іх вытворчасьць, значна паднята гаспадарка вёскі. Узмоцнена і загартавана Чырвоная армія. Досыць шырока сярод рабочых і сялян (у параўнаньні з старымі часамі) распаўсюджана асьвета і г. д. Але шмат яшчэ чаго і трэба зрабіць.

І вось аднэй з галоўных задач сёнешняга дню юных піонэраў зьяўляецца падрыхтоўка і ўдзел у будаўніцтве рабоча-сялянскае ўлады, удзел у грамадзка-карыснай працы сваёй фабрыкі, гораду, вёскі, раёну, школы. Толькі злучваючы кожны крок сваёй навучальнай працы з грамадзка-карыснай працай, піонэр зможа стаць тым моцным рэволюцыянэрам, барацьбітом, які так патрэбен як сучаснаму савецкаму ладу, так і будучаму комуністычнаму ладу.

Ужо ёсьць больш-менш значная колькасьць прыкладаў злучанасьці навучальнай працы з грамадзка-карыснай працай, але неабходна, каб гэта грамадзка-карысная праца зьяўлялася штодзённай працай піонэратраду, піонэр-зьвяна і кожнага піонэра паасобку.

Вызначыўшы мэты піонэрорганізацыі, пяройдзем да школы і разгледзім яе галоўныя рысы.

Перш за-ўсё наша школа зьяўляецца тэй школай, якая асяродзьдзем сваёй працы ставіць вывучэньне сучаснага жыцьця людзей, іх працоўнай дзеяльнасьці, вывучэньне соцыяльных узаемаадносін, узаемаадносін чалавека да прыроды. Аб гэтым сьведчаць тыя програмы, якія выдадзены Камісарыятам Асьветы як БССР, так і камісарыятамі другіх савецкіх рэспублік. Другая рыса нашае школы—гэта на падставе вывучэньня—як практычна так і па кніжках,—працоўнай дзеяльнасьці людзей, на падставе вывучэньня соцыяльных узаемаадносін, на падставе вывучэньня прыроды рабіць належны ўплыў на працоўную дзеяльнасьць людзей, рабіць уплыў на соцыяльныя ўзаемаадносіны, на гаспадарку, на прыроду (у тых яе частках, якія навука ўжо падчыніла сабе),—гэта значыць прымаць пасільны ўдзел у грамадзкай працы, грамадзкім жыцьці і нарэшце, трэцяя рыса нашае школы—гэта разьвіцьцё колектывізму, актыўнасьці і самадзейнасьці вучняў.

Гэтыя рысы досыць ясна гавораць нам, папершае, аб тым, што мэты школы і піонэрруху адны й тыя; падругое, аб тым, у якім напрамку павінна весьціся праца піонэрорганізацый у школе. Напрамак гэты вось які: папершае, неабходна наладзіць школьнае самакіраваньне і асабліва ў старэйшых групах, дзе яно да гэтага часу яшчэ кульгае. Аб адным тут толькі патрэбна памятаваць, каб сваёй актыўнасьцю ня зьнізіць актыўнасьць іншых вучняў школы. Другое—у зьвязку з тым, што школа наша яшчэ моцна сядзіць на вывучэньні жыцьця, неабходна дапамагчы школе прыняць пасільны ўдзел у гэтым жыцьці. У гэтым напрамку перад піонэрорганізацыяй не пачаты куток працы як у горадзе, так і на вёсцы.

Для прыкладу возьмем працу трэцяга году навучаньня.

Па програме гэтага году належыць прайсьці наступныя комплексы: 1) Чалавек, 2) Наш

*) Галоўная ўстанова соцыяльнага выхаваньня.

горад, 3) Кастрычнікаўская рэволюцыя, 4) Горад і вёска і 5) Наш край.

Якую грамадзкую працу пад кіраўніцтвам піонэрорганізацый магла-б правесьці школа?

Па першаму комплексу—дабіцца належнай пастаноўкі санітарыі сярод сем'яў вучняў; санітарыі двароў, калодзежаў; санітарыі клюбаў, хатаў-чытальняў і г. д.

Па комплексах „Наш горад“, „Наша вёска“, „Наш край“—прыняць удзел у вытворчых нарадах нашых фабрык, дасьледваньні дабрабыту рабочых, заклікаканьні жыхарства ў жылтаварыствы, у падняцьці вясковае гаспадаркі, організацыі краязнаўчых музэяў і г. д.

Надыходзіць вясна, а там і лета—і піонэрорганізацыі разам са школай—як з вучнямі, так і настаўнікамі,—асабліва на вёсцы павінны дапамагчы сялянству ў падняцьці іх гаспадаркі, павышэньні сельска-гаспадарчых ведаў сярод сялян і сялянак, павінны прыняць удзел у організацыі дзіцячых пляцовак і г. д.

Толькі ў моцнай злучнасьці з рабочымі і сялянамі са школай і настаўніцтвам, пад непасрэдным кіраўніцтвам Ленінскага Комуністычнага Саюзу Моладзі, піонэрорганізацыя зможа выканаць тыя заданьні, якія пастаўлены перад ёю Комуністычнай партыяй і рабочай клясай.

Г. Мацук

# ВЯСНОВАЕ

У лясы, даліны
Паплыло разводзьдзе...
Сьцеле сонца іней
Срэбны на балоце.

Між люстранай сіні
Залацістай далі
Плаваюць каліны
Па вадзе-крышталі.

Плюхаюцца ў лужах
Хлапчукі ў лотаці.
Восьці спрытна „лужаць“
Шчупакоў і плотак.

Рэчка веснавая—
Для дзяцей прынада.
Радасьцю зіяюць
Рыбакоў пагляды.

—Гэй, Пятрок, дзівіся—
Плотка, нібы плашка!..
Аж увесь стаміўся,
Восьцям стала цяжка.

Песьні, сьмех, гамонка
Коцяцца за горы.
Жаваранак звонкі
Абудзіў прасторы.

Эх, вясна-прывольле!—
Бурнае ты мора...
Сьпевам рэчкі з поля
Раўчукі уторыць...

Нібы гусьлі ў лузе
Граюць між крыніцаў.
Эх, вы, гусьлі, гусьлі,
Вясны-маладзіцы!

—

Зраньня й да зьмярканьня
Шапацелі лужы.

. . . . . . . . . . . .

Сінія туманы
Паплылі па лузе.

Сьвежы і халодны
Вецярок павеяў.
Зьвісьлі над балотам
Косы сонцавею.

І цяпер з зарою
Рыбакі йшлі ў вёску.
Змоўклі за гарою
Песьняў адгалоскі.

А. Якімовіч.





Казка **Тараса Гушчы.**

Малюнкі **Я. Кашкеля.**

I

Можа гэта быў і ня той верабейчык, што прасіў былінку, каб яго пакалыхала. Але з пэўнасьцю можна сказаць, што на былінцы ён калыхаўся. Каб я ведаў вераб'іныя імёны, то я і назваў-бы яго, даў-бы яму самае прыгожае вераб'інае імя. Але пра вераб'іныя імёны нічога ня было чуваць і ў календары імёны іх ня значацца. Дык будзем называць яго проста Верабейка-Калыханчык.

Уся гэтая падзея адбывалася на хутары.

Тут былі такія будынкі: хата з чырвоным комінам, клуня, хлявушкі, сьвіронак і прыгрэбнік з нізенькаю да самае зямлі страхою. Двор быў прасторны і вясёлы. Каля хаты расьлі кучаравыя вішанькі, былі тут грушы і яблыні. З аднаго боку каля хутару стаяў цёмны лес. У лесе жылі зьвяры і драпежныя пташкі: каршуны, совы, пугачы, ястрабы. Выходзіў часамі з лесу воўк і выглядаў, ці ня ходзяць парасяты ці другая жыўнасьць. Наляталі таксама і каршуны, каб забраць бедную курыцу ці якую-небудзь пташку на хутары. А птаства тут было многа: былі тут вераб'і, ластавачкі, плісачкі, галубы, качкі і другія.

Верабей-Калыханчык знашоў сабе жонку, таксама з славутай вераб'інай фаміліі. І сталі яны ўдваіх будаваць сабе хатку. Аблюбавалі яны вельмі добрае месца і ня дзе-небудзь, а пад страхою гаспадарскага дому. Тут было і зацішна і цёпла. Адным словам, такая прыўдалая шчыліна, што рэдка якому вераб'ю здаралася такая ўдача. Калыханчык насіў саломку, сухія карэнчыкі пырнічку і наогул матэрыял болей цяжкі, бо ён-жа быў мужчына, а яго жонка рабіла работу болей лёгкую і болей далікатную: яна падбірала пер'е.

Яе нават быў напалохаў раз певень, моцна напалохаў. Вераб'іха націкавала сабе белую курыную пярынку і ўзяла яе ў дзюбок. А гарлан-певень крыкнуў грозна:

— Куды? куды?

Вераб'іха ад страху выраніла пярынку і адляцела досыць далёка. Певень апамятаваўся і пашкадаваў вераб'іху, і ён ужо лагодна прамовіў да яе:

— Бяры! бяры!

Некатэры час на двары ня відаць было вераб'іхі. Думалі, што яна можа з пярэпалаху занядужала. Калыханчык быў надта заклапочаны ў гэты час. Але аказалася, што вераб'іха проста сядзела на гнязьдзе пад страхою, а потым прашла чутка, што ў Калыханчыка ёсьць дзеці, цэлых пяць штук. Ну і рад-жа быў Калыханчык! Карміў сваіх дзетак, пазіраў на іх, цешыўся імі. Калі дзеці трохі падрасьлі і пачалі шчэбятаць, бацькі селі на страсе каля свае хаты. Яны адчувалі сябе шчасьлівымі: дзеці іх расьлі, гадаваліся, дужалі і былі разумныя. Сярод іх былі тры хлопчыкі і дзьве дзяўчаткі. Называліся хлопчыкі так: Чы-Лін, Чын і Чук, а дзяўчаткі—Чуча і Жычка.

II

У Калыханчыка і яго жонкі былі ня толькі радасьці,—быў у іх і клопат, і трывога. Іх дзеці сталі падрастаць і ўходзіць у сілу. Ім ужо было цесна ў бацькавай хаце, ім хацелася на сьвет, на прастор, на волю. Таксама хацелася і сілу сваіх крыльляў папрабаваць. Асабліва неспакойным, жывым і праворным быў Чы-Лін. Але на гэтым прасторы было многа небясьпекі. Нядаўна сюды залятаў ястраб і чуць-чуць не злавіў ластавачкі і не задраў курачкі. І толькі храбрасьць пеўня. Ціпа выратавала няшчасных, бо Ціп у часе крыкнуў так громка, што на яго крык выбегла гаспадыня і прагнала драпежніка.

Параіўшыся з жонкаю, Калыханчык падляцеў да гнязда і сказаў:

— Дзеці, дзеці! ціха сядзеце! З хаты ня вылазіць, калі нас няма. А то пахватае вас Ястраб.

— Слабо!—адказаў бацьку Чы-Лін.

Калыханчык засьмяяўся ад здаволеньня, што мае такога сьмелага сына. Ён пацалаваў яго ў самы дзюбок і маланкаю паімчаўся ў каноплі. Астаўшыся дома, Чы-Лін ня доўга сядзеў спакойна. Ён далёка высунуў з гнязда галаву.



— Дурак-балван!

— Хачу ляцець! Хачу ляцець!—крыкнуў ён і высунуўся яшчэ больш. Певень Ціп, учуўшы гэта, строга перасьцярог:

— Куды? Куды?

Чын і Чуча схвацілі неспакойнага брата дзюбкамі за лапкі і ня пускалі, а ён крычаў:

— Пусьці! пусьці!

Вызваліў лапкі і паляцеў... але ня ўгору, а ўніз, бяспрытна перабіраючы крыльцамі.

Чын, Чук, Чуча і Жычка паднялі гвалт. Прыляцелі бацькі. Крык, гармідар.

Праўда, Чы-Лін досыць шчасьліва апынiўся на зямлі каля прызбы. Ён сам страшна перапалохаўся і цяжка дыхаў.

— Сынок! сынок!—крычала маці:—ці жывенькі ты?

Чы-Лін шырока разьзявіў жоўты рот.

— Жыў! жыў!— адказаў матцы.

Певень, праходзячы каля прызбы, спыніўся, падкурчыўшы адну нogу, зірнуў зьняважліва на Чы-Ліна і досыць сярдзіта сказаў:

— Дурак-балван!

Калыханчык моцна пакрыўдзіўся за сына.

— Мужык! мужык! мужык!—крыкнуў ён тры разы на пеўня.

Гэты выпадак з Чы-Лінам меў багатыя вынікі. У той час, калі ўвага хутарскага птаства была адведзена ў бок здарэньня з Чы-Лінам, пры лесе, на сухой дубовай галінцы сядзеў каршун і пільна сачыў за тым, што робіцца на двары. Каршун быў стары, вялікі з загнутым сярпом дзюбам, з доўгімі і вострымі кабдзюрамі. Улучыўшы мінуту, стралою мільгатнуў у паветры і ў момант вока схапіў кабдзюрамі куранё і панёс у лес.

Ой, якая паднялася тут суматоха, трывога!

Мацней за ўсіх крычаў певень.

— Куды панёс? куды панёс?

Закружыліся галубы: падняліся высока-высока ў небе. З усіх канцоў пазьляталіся ластавачкі.

— Цуп-цуф! цуп-цуф!—крычалі яны.

Сядзеўшы на гэты час за клуняю на вярбе дрозд жаласьліва высьвістваў:

— Ухваціў! ухваціў! А-а-а!

Чы-Лін пазіраў на гэты гармідар: дзівіўся і, відаць, нешта думаў. Потым ён задраў угору галаву.



— Ухваціў, ухваціў!..

— Чук! Чук!—пачаў клікаць брата.

Але тут да яго падляцеў Калыханчык, схапіў сына за крыльца і пабег з ім у вішнячок, у крапіву, каб схаваць яго ад бяды.

### III.

Тут ён праседзеў цэлых тры дні. Бацькі прыносілі яму корму, так што галадаць тут ня прыходзілася. Спачатку трохі было маркотна аднаму, але потым прывык. Седзячы адзін у крапіве, Чы-Лін пачаў разважаць, думаць, наглядаць, што дзеецца навокала. Думкі яго былі больш практычна-адміністра-

тарскага характару. Ён знашоў, што сярод птаства на дварэ няма згоды, што ўсе яны жывуць разбродам, думаюць толькі аб сваіх вузка-буржуазных інтарэсах, а гэтым карыстаюцца драпежнікі і вудзяць іх патроху сабе на спажытак.

Чы-Лін пачаў разьвіваць сваю тэорыю далей. На трэці дзень у яго галаве злажыўся пэўны плян, але аб ім покі што ён нікому не гаварыў. К канцу трэцяга дня ён узьляцеў на паркан, з паркана на грушу, з грушы на клуню, і з гэтага часу пачаў вельмі спрытна лятаць. На чацьвёрты дзень павылятаді Чук-Чын, Жычка, Чуча. Дзён два яны жылі пад строгім кіраўніцтвам і доглядам бацькоў, а потым патроху пачалі жыць незалежна.

Вось цяпер Чы-Лін і прыступіў да ажыцьцяўленьня задуманага пляну, рэформы. Увесь дзень ён вёў агітацыю, кідаў новыя мысьлі ў птушыныя галовы, мысьлі аб тым, каб завесьці новы парадак сярод птаства, каб не давацца больш у крыўду драпежнікаў. Усюды ён знаходзіў спачуваньне, і ўсё птаства з ахвотаю згадзілася на пропозыцыю Чы-Ліна сабраць агульны сход.

Сход адбыўся на прыгуменьні. Тут было прасторна. На прыгуменьні стаяў і азярод, дзе вельмі добра было расьсесьціся пташкам. Некаторы час быў шум і трудна было пачуць, хто што гаворыць.

Ціха!—крыкнуў Чы-Лін.

Усе сьціхлі.

— Грэмадзяне! прашу дзяржаць парадак, бо так мы патрацім час, і наш сход ня зможа нічога зрабіць. Выберам наўперад старшыню, каб ён правёў сход. З свайго боку я прасіў-бы абраць за старшыню Ціпа.

— Ціп! Ціп! Ціп—зашумелі пташкі. Певень прыняў яшчэ больш важную постаць і, стоячы на шуле, моцна замахаў крыльлямі і падзякаваў за вялікі гонар, які аказаў яму сход, громкім—ка-ка-рэ-ку!

Затым ён сказаў:

— Абвяшчаю наш сход адкрытым. Слова для дакладу мае т. Чы-Лін.

— Просім! просім!—загаманілі пташкі. Чы-Лін выступіў.

— Грамадзяне! Усім вам вядома, пад якім страхам жывём мы. Залятаюць з лесу ястрабы і каршуны: цягаюць нашага брата. Чаму? А таму, што мы жывём кожны па сабе, ня думаем аб другіх, не дапамагаем адзін другому. Давайце-ж будзем жыць у згодзе, давайце арганізуем сябрыню і завядзём такі парадак, каб у нас былі вартаўнікі. Вартаўнікі пададуць знак, калі дзе пакажацца драпежнік, і мы ўсе будзем ведаць аб бядзе і не дапусьцім яе на двор. Апрача гэтага, нам трэба мець войска—адбіваць драпежнікаў.

— Ура! ура!—закрычала варона.

— Так-так-так!—азвалася качка.

— Брава! брава!—крыкнуў шпак.

— Жыві, Чы-Лін! Жыві, Чы-Лін!—з усіх канцоў шчабяталі вераб'і.

— Кока! Ко-о-о-ка!—пахвалілі Чы-Ліна куры.



Сход адбыўся на прыгуменьні.

Так і зрабілі. Паставілі варту, сабралі войска, прычым організацыя яго была даручана вароне. Ластавачкі павінны быць на варце і падаваць умоўны знак, калі будзе якая небясьпека.

— Рэпэтыцыю! рэпэтыцыю!—закрычала ластавачка.

Папробавалі зрабіць рэпэтыцыю.

Калі сход скончыўся і ўсе разышліся па сваіх справах, вартаўнік-ластавачка крыкнула з-пад лесу:

— Цу-пу-цуф! Цу-пу-цуф!

У вадзін момант другія ластавачкі перадалі гэты крык па ўсім хутары, а пташкі зараз-жа прынялі адпаведныя меры абароны.

— Шыкарна! Шыкарна!—казала сарока. У вось калі назаўтра сапраўды выляцеў з лесу ястраб, то не пасьпеў ён праляцець і поўдарогі да хутару, як яго спаткала моц-


— Сіла ў к лектыве!..

нае птушынае войска, прычым адна варона так дзюбанула нягодніка, што з яго аж пер'е пасыпалася, і ён больш ніколі не паказваў носу на хутар.

Стала спакойна, вольна жыць пташкам на хутары, бо Чы-Лін паставіў справу арганізацыі колектыўнага жыцьця на моцны і правільны грунт. А дрозд сьпяваў цяпер такую песьню:

— Сіла ў колектыве! Сіла ў колектыве!

За грамадзянскія заслугі Чы-Ліну была назначана пажыватная пэнсія ў разьмеры трохсот канапляных зернят на месяц.

Тарас Гушча.

---

# Патроху пра вялікіх і маленькіх людзей.

*(Малюнак з жыцьця Лёндону—сталіцы Ангельшчыны).*

**Том і Мэры вяртаюцца з школы.**

Сёньня ўвесь Лёндон засланы
змрокам густога туману.
Шэрага неба цямней
з дыма фабрык, з тумана
чуць сьвет ад ранку
гурбы людзей
сьпяшаюцца,
бягуць,
ідуць...
За натоўпамі людзей,
аўтобусаў,
кэбаў шэраг.
Быццам гуляючы ў хованкі
ў туманных складках,
сягоньня зраньня
ліхтары гараць.
Вось з школы сьпяшаюцца
да дому ў тумане
брат і сястра.
Паслухай, што яны гавораць.
— Том, гэта наша вуліца?
Том, як весела!
Том, як сьмешна!
Том, мы—як... сьляпыя курыцы.
— Том,
дзе дом?
— Мэры,
дзе дзьверы?
Мэры,
дзе дом?
— Том,
дзе дом?
— Мэры?..
— Том,
дзе дзьверы?
Дом нашлі.
Ў дзьверы пашлі
і схаваліся там са сьмехам...
. . . . . . . . .
А на вуліцы,
дзе туманы туляюцца,
у даўжэнны рад
ліхтары гараць...

Рашэль Энгель.



# Бяспрытульныя піонэры.

**Колектыўны твор вучняў III клясы Менскай Цэнтральнай Дасьледчай школы.**

АСОБЫ:

Бяспрытульныя:
- ЮЗІК — хлопчык 12-13 гадоў.
- МІХАЛКА, МІРОН, МАКСІМ СІНІЦА — хлопцы па гадоў 10-12.

ПАВАДЫР ПІОНЭРСКАГА АТРАДУ — хлапец гадоў 17.

ПІОНЭРЫ.

АДЗІН ПІОНЭР.

СЯЛЯНКА — вясковая кабета гадоў за 40.

РАБОТНІЦА — гадоў за 40.

СЕЛЯНІН — стараваты з барадой.

**I дзея.**

*Пустая вуліца ў горадзе.*

Юзік (*выходзіць і аглядаецца па бакох*). Ну й есьці-ж мне хочацца! Здаецца, рэдзьку печаную еў-бы, каб была. І ніко. -ж мне так есьці не хацелася, як сёньня. (*Здалёк паказваюцца Мірон і Міхалка*). Эй, Міхалка, Мірон, сюды! Нешта скажу! (*Міхалка і Мірон бягуць*).

Мірон. Ну што ты скажаш?

Міхалка. Навошта ты нас клікаў?

Юзік. Вы маеце што зьесьці?

Мірон. Нашоў на што клікаць. Ты, Юзік, лепей запытайся ў Міхалкі, як яго ўчора пачаставалі булкай у крамцы на Нізкім рынку.



Бяспрытульныя.

Міхалка. Ы-ы-ы! Мірон, ідзі вон! А ты хіба забыўся, як цябе выганялі з піўной? (*Штурхае Мірона*).

Юзік. Кіньце, хлопцы! Давайце лепш абмяркуем, як нам пад'есьці!

Юзік. А ведаеце што, хлопцы, мне ўжо абрыдла як сабаку цягацца ды ўсім у вочы пагладаць. Слухайце, што я надумаў!

Міхась, Мірон. Што? што? кажы!

Юзік. Вы ведаеце, скуль Сініца Максімка разбуржуеў?

Міхалка. Ну, ну!

Мірон. Не, ня ведаем!

Юзік (*шэпча*). Вось як гэта было. Неяк ён слаяўся па Нізкім рынку. Ня ведаю, як яму ўдалося „сьперці“ трубку мультану. Мультан ён прадаў і за гэтыя грошы...

Мірон. Не, я баюся гэтым займацца!

Міхалка. Дурны, ты, Мірон, як атопак з левай нагі. Ідзём, Юзік! (*хапае Юзіка пад руку і пачынае сьпяваць*). „Былі ў бацькі тры сыны ды ух я!“

Мірон. Не, хлапцы, баюся я. Вы лепей паслухайце мяне. Я спрабую прасіць, а калі ўжо ня ўдасца, дык тады...

Міхалка. Пацягнем!

Юзік (*да Мірона*). А шмат табе надавалі? Глядзіш, другая ідзе сытая, гладкая, як карова, а папросіш—скрывіць морду, каб яе трасца крывіла, і пойдзе.

Мірон. Бо ты ня ведаеш, у каго прасіць: ты прасі ў гэтых, што на работу ды з работы ідуць пасьля гудкоў, гэтыя даюць! Вось пабачыш! Няхай мяне грымоты заб'юць у ясны дзень, сьвінёй мяне тады назавеш, калі я ня выенчу ў каго-небудзь кавалка хлеба!

Юзік. Ну, пабачым! Пачакаем, але на рынак усё-ж такі пойдзем. (*Ідуць на рынак*).

Заслона.

**II дзея.**

*Рынак. Прадаюць сяляне малако, гандляркі—яблыкі. Сяляне і сялянкі.*

Сініца (*трэцца паміж людзьмі, да ўсяго прыглядаецца, асабліва, калі дзе плацяць грошы*). Вось ірыскі, малочныя, на сьмятане — у роце тае, пара на капейку! (*Падыходзіць да сялянкі, у якой работніца купляе сыр*). Цётка, купляйце ірыскі!

Сялянка. Навошта мне тыя ірыскі, ды ў мяне і грошай няма! (*Сініца заходзіць з-заду кабеты і цікуе*).

Мірон (*падыходзіць да сялянкі*). Цётачка, дайце чаго-небудзь зьесьці.

Сініца (*дражніць Мірона*). Цётачка, дайце зьесьці. І-і-і, старчанё!

Сялянка. У мяне, мой каток, нічога няма, акром хлеба.

Мірон. Дык я-ж хлеба і прашу. (*Сялянка дае Мірону хлеба*).

Мірон. Дзякую, цётачкі! (*Накідваецца на хлеб*). Вось будзе ўсім чым духі перавязаць. Дзе-ж мае хлопцы? (*Адыходзіць і сачыць за Сініцай*).

Сялянка. Што гэта за дзеці?

Работніца. Ды гэтыя-ж, як іх, бяспрытульныя!

Сялянка. Бедныя дзеткі...

Работніца. Вось надыходзіць дзень жанчыны, мы думаем сабрацца дый парадзіцца, як-бы дапамагчы ім.

Сініца (*выцягвае з кішэні грошы і ўцякае*).

Работніца (*кладзе руку ў кішэню, потым выхватвае й крычыць*). А дзе-ж мае грошыкі?

Сялянка. Ці ня гэты, можа, сьцягнуў, што хлеба прасіў?

Работніца. Ах, каб на іх звод, ты яму дабро рабі, а ён табе злом плаціць! (*Да сялянкі*). Пойдзем, кабетка, пашукаем, можа дзе напаткаем гэтага гіцля! (*Выходзяць за сцэну*).

**III дзея.**

*У канцы, на краі рынку.*

Сініца (*бяжыць, туляецца з ірыскамі, хавае за пазуху грошы*). Здаецца, ніхто ня бачыў?! (*Азі-

*рдеица, убачыў Мірона, які бяжыць за ім).* Ты чаго, старчанё, увязаўся за мной?

Мірон. Думаеш, я ня ведаю, ня бачыў...

Сініца. Што ты ведаеш, што ты бачыў? Кажы! *(Сунеца да Мірона з кулакамі. У гэты час падбягаюць Юзік і Міхалка).*

Юзік. Што ты тут, Сініца, фарсіш сваімі кулакамі?



Сініца выцягвае з кішэні грошы...

Мірон. Ну дай, ну зачапі! А што-ж ты мне зробіш і бачыў!

Юзік. Што бачыў? Хто бачыў?..

Мірон *(паказвае на Сініцу).* Ен...

Юзік. Ён хацеў у цябе сыр адабраць?

Мірон. Не, ён у ваднэй кабеты горшы ўкраў!

Сініца *(імкнеецца ўцякаць).*

Юзік *(хапае Сініцу за каўнер).* Стой! Грошы? А папалам—ня ласкаў? *(Хлопцы валтузяцца, тузаюцца).*

Сініца. Дзе грошы, якія грошы? Можа сам украў, шчанё. *(Здалёку чуваць барабан і піонэрская песьня „Кавалі“. Піонэр-атрад праходзіць каля хлапцоў).*

Павадыр. Атрад, стой! *(Сам падыходзіць да бяспрытульных).* Чаго вы тут валтузіцеся? Што тут за калатня такая?

Сініца *(да Юзіка).* Убірайся, смала, чаго прычапіўся? Пусьці!

Мірон. Ага! Папаўся, зараз пусьцім...

Сялянка і Работніца *(накідаюцца на Мірона).* Дык ты гэтак нас падзякаваў? *(Мірон глядзіць ім у вочы, нічога не разумеючы).*

Сялянка. Дык ты ў гэткія заработкі пусьціўся?

Работніца. Аддавай, гіцаль, грошы!

Мірон. Не, цётачкі, гэта не я, гэта ён украў грошы!

Сініца. Якія грошы, адчапіся! Сам украў—цяпер на мяне!

Мірон *(з плачам).* Сініца, Сініца ўкраў грошы! *(Паказвае на Сініцу).*

Павадыр *(да Сініцы).* Гэта цябе завуць Сініцай? Дык кажы праўду, Сініца, ты ўкраў грошы, ці ня ты,—усё роўна шукаць будзем!

*(Сініца дастае з-за пазухі грошы, аддае іх павадыру, а павадыр аддае работніцы).*

Работніца. Скуль ты?

Юзік. З-пад кур, пеўняў сын. *(Усе сьмяюцца).*

Сялянка. Ды што тут з імі валтузіцца: цягні ў міліцыю, там ня будзе зубоў скаліць, разьбяруць скуль!

Павадыр. Выбачайце, дзядзька, дазвольце і мне запытацца. *(Зварочваецца да Сініцы).* Скажы, Сініца, хто ты й скуль, дзе твае бацькі.

Сініца. Ні адкуль, няма ў мяне бацькоў!

Павадыр. А дзе-ж яны?

Юзік. Пашлі сабакам сена касіць! *(Усе сьмяюцца).*

Павадыр *(зварочваецца да бяспрытульных)*: Хлопцы! Станавецеся вы з намі ў рады ды пойдзем у ватрад!

Міхалка. А есьці вы нам дасьцё?

Юзік. А спаць будзе дзе?

Піонэры *(разам).* Мы падзелімся з вамі астатнім.

Юзік. Мірон, Міхалка! *(Весела).* Ідзём, ідзём, ідзём! *(Іх абступаюць піонэры і пяюць песьню якуюнебудзь, напрыклад, „Кавалі“. Сініца стаіць, спусьціўшы галаву).*

Павадыр *(да Сініцы).* Чаго-ж ты стаіш? Ня хочаш далучацца да нас? *(Яго абхінаюць піонэры, павадыр, палажыўшы руку Сініцы на плячо, глядзіць яму ў вочы).* Ад сёнешняга дню пачнецца для цябе новае жыцьцё, я табе дапамагу! Пойдзем да нас—не пашкадуеш! *(Вакол іх пачынаюць скакаць і сьпяваць піонэры).*

Селянін *(зварочваецца да кабет).* Ну, што ты скажаш на гэта?



— Пойдзем да нас...

Работніца } Ды што-ж сказаць, малайцы
Сялянка } піонэры!

Работніца. Вось я ўжо пэўна ведаю, што з гэтых трох больш ніхто ня пойдзе красьці.

Усе. Малайцы піонэры!

(Заслона).

# МІХАЛКАВА НАВУКА

Адрывак з апавяданьня **А. ЯКІМОВІЧА.**

Малюнкі ў тэксьце А. ТЫЧЫНЫ.



...Школа, дзе набывалі самую неабходную навуку дзеці вёскі Чырловічы, была ў мястэчку. Мястэчка знаходзілася ня зусім далёка ад гэтае вёскі. З гэтай прычыны ніхто ніколі з сялян і ня думаў над тым, каб заснаваць тут-жа ў Чырловічах сваю школу.

— Калі хто захоча падучыць сваё дзіцё літарам і пісьму, дык гэта-ж не за гарамі,—разважалі бацькі, калі гутарка заходзіла часамі аб школе і навучаньні дзяцей.

Граматы, вышэйшай ад зразуменьня літар і лікаў, ніхто, бязумоўна, і ня імкнуўся атрымаць. Ды наогул, навучаньне грамаце было ня ў модзе. Гадоў некалькі таму назад, вёска мела толькі двох пісьменных чалавек. Адзін з іх быў адстаўны дзячок Пракоп, а другі нібыта „фэйчар“, як ён лічыў сябе. Хоць трэба прызнацца, што вясковыя шаптухі ў справе лячэньня часамі ведалі куды больш за гэтага „фэйчара“, бо тыя маглі „зьлячыць“ хваробу чалавека праз некалькі дзён пасьля чаго хворы мог спакойна сабе спачываць на могілках і не баяцца ніякае хваробы. Фэйчару-ж на гэту „апарацыю“ патрабавалася ня менш поўгоду. Бо гэта быў яго даход.

Дык вось толькі гэты адстаўны па старасьці гадоў дзячок і самазванец-фэйчар ведалі з большага грамату. Усе іншыя вяскоўцы або ня ведалі яе зусім, або вучыліся праз сябе. Вучыліся яны толькі па двух прадметах: гэта—расьпісацца і пісьмовым лікам у межах ста.

Такая навука патрэбна была ў калоднай справе. Маючы заўсёды справу з калодамі, возячы іх на руму і сплаўляючы да Нёмна, цяжка было разьбірацца няпісьменнаму. Ад гэтага шмат хто ня раз быў ашуканы купцамі-гандлярамі.

У гаспадарцы граматы таксама не патрэбна. Для гэтага быў у вёсцы свой „каляндар“. „Каляндаром“ звалі тут здаўных старую кабету Віктосю. Памяць гэтай кабеты не адказвала служыць людзям шмат дзесяткаў гадоў. Бывала, калі трэба каму-небудзь даведацца, колькі яму гадоў ці калі хто жаніўся, памёр і г. д.—спраўку заўсёды можна было атрымаць у Віктосі. Тое-ж самае было і з рознымі сьвятамі. Віктося дакладна ведала ня толькі дзень таго ці іншага сьвята, але і вартасьць гэтага сьвята. Яна ведала, што можна рабіць, а што не ў гэты сьвяты дзень.

Так і жыла вёска Чырловічы паціхаму ды па мірнаму. Але бяз ліха ня бывае.

Гэта ліха і ўскалыхнула адвечную бяду цёмнай вёскі...

На людзей зваліліся грозная і страшэнная навала. Пачалася вайна... Усе маладыя мужчыны і хлапцы былі адарваны ад сваіх родных і знаёмых. Пашлі яны класьці свае непавінныя ні ў чым галовы...

І тады вёска пачала выходзіць з меж свайго звычайнага і мірнага жыцьця, пачала прыслухоўвацца да жыцьця ўсіх людзей...

Кожны дзень пошта прывозіла дзесяткі лістоў ад родных і знаёмых з гэтай самай вайны. Трэба было адпісваць на гэтыя лісты. А тут, як на бяду, дзячок адышоў у лона Абрама... Фэйчар пашоў у войска.

Увесь цэнжар па справах абмену лістамі з вайсковымі лёг цяпер на адзінага граматнага ў вёсцы чалавека—Янкавага Міхалку.

Міхалка ўжо другі год, як бегаў вучыцца ў мястэчка, у школу. Для адпісваньня лістоў звычайна вызначалася нядзеля.

Яшчэ толькі што пачынае разьвідняцца, як Міхалку ўжо штурхае пад бок матка:
—Уставай, сынок, блінцы ўжо гатовы...

Міхалка паварушыцца, памыкае ды зноў нацягне на сябе цёплую і мяккую коўдру. Такі салодкі, дзіўны сон... Так хораша і прыемна драмаць і сьніць розныя цудоўныя

казкі... І як няпрыемна пасьля таго, як прачынаешся і ўсё зьнікае, толькі адна матка стаіць ля ложка і тармосіць коўдру.

— Устань, Міхалка... Бліны сёньня такія смачныя... Сьмятаны колькі хочаш...

І тут пачынаецца барацьба ў думках Міхалкі, што—лепш бліны з маслам ці сон?

— Сон то й заўтра будзе, а блінцы гарачыя толькі сёньня,—памагае разьвязаць Міхалку гэту задачу матка, угадаўшы яго думкі.

— Добра. Я йду,—дае ён сваю згоду.

Не пасьпявае ён пераступіць парог хаты, як да яго з усіх куткоў ляцяць пахвалы.

— Вось маладзец! А які ён слаўны, вясёлы!

Хоць, папраўдзе, куды там да вясёласьці, калі вочы кулакамі трэба праціраць—гэтак пазьліпліваюцца ад прыемна-салодкага сну.

— Слаўны сын у цябе, Паўліна!—хваляць доўга і шчыра кабеты, якія зьбіраюцца з лістамі, і матку Міхалкі і яго самога.

— Дайце рады, жаночкі... Я й сама цешуся з яго. Да навукі дык проста прыліп. Не адарваць ад яе Міхалкі. Толькі вось бацька...

— Але-ж, але-ж... нягодны твой Янка. Гэта-ж сын гэтак бярэцца, а ён...

— Ну, колькі сёньня?—кідаў здаволена пытаньне Міхалка ў бок кабет.

— Усяго пятнаццаць, дзіцятка...

— Гэй, што яму, граматнаму! Ды гэтак хутка яшчэ піша!—падхаплялі другія кабеты, стараючыся ўгадзіць Міхалку.

Міхалка хутка вымываўся, прычэсваўся і садзіўся за працу. З блінамі яго матка, бязумоўна, ашукала. Але злаваць на яе нельга было. Матчына сэрца ведаў добра Міхалка. Ведаў ён, як любіць яна свайго сына і як любіць яна ўсіх людзей у вёсцы. Гэтак-жа сама быў прывязаны Міхалка і да маткі. Гэтак-жа любіў ён і яе.

Міхалку ў гэты час было ня больш дзесяці гадоў. Хлапец быў даволі жвавы, заўсёды вясёлы і бойкі. Вучэньне спадабаў ён больш усяго, што можа быць лепшага ў жыцьці ў дзіцячыя гады. Вучыўся лепш ад усіх сваіх таварышоў па школе. Асабліва добра яму ўдавалася з пісаньнем. Нават бацька і той часамі хваліў за гэта Міхалку, хоць і ня любіў ён сам навукі і нічога ў ёй ня ведаў, апрача лічбаў і тых літар, якія ўваходзілі ў яго імя і прозьвішча. Бацька ня раз ужо хваліўся сынам з яго пісаньнем розным канторшчыкам і памоцнікам валаснога пісара. Апошнія, праўда, ацанілі талент Міхалкі ў пісаньні і ўсе ў адзін голас заяўлялі, што з яго выдзе некалі добры пісар. Янка быў так упэўнены ў гэтых іх словах, што ўжо зараней вырашыў, каб па сканчэньні Міхалкам школы аддаць яго пісару ў памоцнікі. Затое ад гэтага небалазя было чытаньню і кніжкам Міхалкі... Бацька ў гэтым бачыў толькі лішнюю трату часу і ніякае практычнае карысьці. І калі прыходзілася яму купіць які-небудзь вучэбнік, тады ў хаце пачынаўся цэлы вархал. Матка стаяла за тое, каб купіць, а бацька ані блізка. Справа звычайна канчалася гарачай сваркай, а то й бойкай паміж бацькамі.

Ня любіў яшчэ бацька і гэтых лістоў, якія пісаў Міхалка кабетам. Ён тут ня бачыў таксама ніякае карысьці для сябе. А „сьвет пыніць“, як гаварыў Янка, для яго было зусім не па густу.

Вось чаму і прыходзілася Міхалку ўспарвацца да зары з пасьцелі. Бацька раніцой вадзіў пасьвіць каня і такім чынам справа кабет была забясьпечана.

У гэтым выпадку трэба было старацца толькі заўчасьня да сьнеданьня скончыць, каб абыйціся бяз лішняй сваркі і крыўданьняў бацькі і на сына і на гэтых кабет. І праўда, Міхалка доўга не прымушаў чакаць свой завоз.

— У вас да каго, цётка Даміцэля?—пачынаў ён з кутка ад печы па парадку.

## Сын і маці.

— Сынок, на што бяжыш ты ў лес
У гэткі позны час?
Ня знойдзеш там сваёй сястры,
Пабудзь ты каля нас!

— О, матка родная! пусьці мяне,
Я не магу далей чакаць.
Сястру знайду я ў цёмным лесе,
Пайду яе шукаць.

Пакуль яе я не знайду,
Маркотным буду я.
Пайду шукаць яе, пайду
І прывяду да вас.

———

Мінулася ужо зіма
І халадоў яе няма.
Прышла вясна і сын прышоў,—
Знашоў вясну-сястру, знашоў!

Вучань **Г. Фрэйдзін.**

— Сынку Зьмітру хачу, дзеткі...

— А што-ж вы хочаце яму напісаць?

— Ды хто-ж яго ведае... Пішы, што ведаеш сам... Жыва й здарова... Ды вучыць-жа, дзеткі, цябе ня трэба...

У такіх выпадках Міхалка ўжо ведаў, што і як напісаць. Руку сваю на гэтым ён так набіў, як які-небудзь пісар на канцэлярскай справе.



— Зробім, уладзімся, не бядуй, саколік!..

У хаце на гэты час звычайна было ціха і спакойна. Кабеты разумелі працу Міхалкі і стараліся не перашкаджаць яго думкам і пісаньню. Міхалка тады ўвесь аддаваўся сваёй справе. Ён забываўся нават і аб мяккіх грэцкіх блінох і аб звоне скаварады аб прыпечак.

Але не заўсёды так добра й канчалася гэтая пісаніна. У хату ўвальваўся бацька...

— Вонь куры азярод ачысьцілі, а ты ўсё з гэтымі лістамі... Хлеб есьці з іх будзеш!? Гультаіна і больш... Пралупіў толькі вочы— ужо кніжка або пісаніна пад рукамі...—лаяўся і нэрваваў бацька.

І толькі гуртам кабетам удавалася яго супакойваць і ўгаварыць палезьці на печ адпыхаць з дарогі.

Адыходзячы з хаты, усе кабеты шчыра дзякавалі матку і Міхалку.

— Вучэце, жаночкі, і вы сваіх дзяцей. Як-жа гэта, каб гэтакая вялікая вёска і ніхто ня вучыцца,—угаварвала кабет матка на разьвітаньні.

* * *

...Халодна-дажджлівая і цягучая восень атуляла спакойную вёску. Волавам зьвісалі на зямлю цяжкія чорныя хмары. На вуліцы аў клейкай і перамешанай з гноем грэзі ўтварылася сапраўднае балота... Цяпер па гэтай вуліцы рэдка хто адважваўся прайсьці. Ног цяжка было вырваць з калатушнай грязі. Толькі сяды-тады можна было бачыць на вуліцы немцаў, якія прыяжджалі з мястэчка за падаткам...

У вадзін з такіх вечароў сядзеў Міхалка пад акном сваёй цёмнай хаты. Важная думка займала яго цяпер...

Гэтай восеньню адчынілася ў мястэчку вышэйшая пачатковая школа...

— Як папасьці?..

Сказаць бацьку, прасіць яго аб тым, каб дазволіў паступіць—было безнадзейна. Ніякай сьветлай іскры ня бачыў Міхалка ў вачох бацькі. А ў школу яго так цягнула, так маніла да сябе гэта цудоўная навука, якай расчыняе вочы чалавеку зорамі свайго сьвету.

Апошняя надзея была на настаўніка Міколу Іванавіча. Міхалка толькі ўчора прасіў яго аб гэтым. Знарок сам бегаў увечары да яго з просьбай зайсьці да іх і пагутарыць з бацькам аб Міхалку.

Міхалка пачаў прыпамінаць сваю гутарку з настаўнікам і яго адносіны да просьбы свайго ранейшага вучня.

— Зробім, уладзімся, не бядуй, саколік...—абнадзеіў настаўнік свайго любімага вучня.



— Хлеб есьці з граматы будзеш?!

І яшчэ ўзьбеглі Міхалку на памяць думкі ў дарозе і тыя страхі, якія яму здаваліся таму, што ён думаў аб іх...

А й сапраўды было страшна. Дзікі лес. Гразь. Балота. Восень. І ён адзін у позны вечар з усёй сілы нясецца дамоў. Гэта першы раз у яго жыцьці.

— І як я адважыўся? Трэба было. Цьвёрдая пастанова: вучыцца, хоць як-бы гэта цяжка ні было.

—Няўжо-ж прыдзе?—шаптаў сам пра сябе Міхалка.

І якой радасьцю асьвяціўся яго маленькі задумённы тварык, калі на парозе перад ім паказаўся Мікола Іванавіч.

— Ну, як здароў?

— Дзякую дзядзьку настаўніка...

— Дзе бацька?

— Дома. На печы...—паказаў Міхалка пальцам на вялікую хатнюю печ.

Хата на момант ажывілася, засьвяціўся з прымурку вагоньчык.

— Злазь, Янка. Ці-ж ты такі ўжо стары, каб на печы разам з прусакамі валяцца,—жартаваў настаўнік.

— Ды вось, дайце рады. Малаціў, дык сьпіну троха павярэдзіў, хай яе паралюш. Думаў троха выраўняць на печы...—адказваў Янка, злазячы на хату.—Якім-жа гэта чынам?

— Ды вось ішоў па дарозе. Думаю зайду.

— Як-жа ў вас з школай? Ужо вучыце?

— Так, так, заняткі пачаліся. А чаму-ж гэта, Янка, свайго не аддаеш у новую школу?

— Ай, дзе там. Думаў я над гэтым. Кончыў-жа сваю (пад гэтым Янка разумеў народную) і досыць з яго. У нашым жыцьці вялікай граматы ня трэба. Вось падвучыцца яшчэ пісаць—памоцнікам да пісара аддам.

— Не, брат Янка. Міхалка яшчэ малады зусім. Нельга яго калечыць. Трэба яшчэ вучыць...

— Хлеба з навукі есьці ня будзе. Куды ўжо нашаму брату лезьці ў гэтыя вучоныя. Скажы, каб ён вучыўся на каваля ці на бондара—другая справа,—разважаў Янка.

У хаце ў гэты час ува ўсіх прысутных адчувалася вялікае напружаньне думак і разважаньняў. Настаўнік кідаўся ва ўсе бакі з сваймі довадамі, каб пераканаць Янку аб патрэбе вучыцца. Ён вельмі шчыра адчуў імкненьне і здольнасьць да навукі Міхалкі. І шкада было Міколу Іванавічу за далейшы лёс свайго лепшага і шчырага вучня. Матка таксама ня менш настаўніка спачувала навуцы свайго сына. Яна ціха прытулілася галавой да печы і моўчкі плакала, калі Янка ўваходзіў у злосьць і крычаў на ўсю хату:

— Прапашчы ён будзе! Прападзе, як рудая мыш! Ад зямлі адарвецца і неба не дастане!

Гэтак моцна зьвязаны быў Янка сам з зямлёй і гэтак шкада было яму адарваць ад яе сына.



А й сапраўды было вусьцішна..,

— Такой бяды, Яначка, навуку-ж за плячамі ня носяць,—дрыжачым голасам абазвалася і матка.

Мікола Іванавіч у гэтым разе быў вельмі асьцярожным і вытрыманым. Ён доўга думаў над чым-небудзь перш, чым гэта выказаць. І прытым добра ведаў ён, чым жыве селянін.

— А ці-ж будзе карысьць з таго, што Міхалка будзе гадавацца ў цябе такім самым гарэзай, як і ўсе іншыя дзеці вёскі? Ганяцца будзе за вераб'ямі, мучыць і біць сабак ды драць лапці?

— А дзе ён дзенецца, калі навучыцца?

— Аб гэтым, брат, не бядуй. Паглядзі, колькі вакол нас цёмных і несьвядомых людзей, якіх трэба вучыць і з якімі трэба працаваць! Навука не сапсуе яго, а дапаможа ў жыцьці і яму і ўсім цёмным і несьвядомым сялянам. . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ужо атуляла ноч сваймі цёмнымі крыльлямі старэнькую хату, як гутарка набліжалася да канца. Доўга гутарылі, доўга разважалі і думалі...

Міхалка ўвесь час сядзеў задуменным ля маткі. Яму ўвесь час хацелася падбегчы да стала і голасна заявіць бацьку: „Буду ўлетку пасьвіць сьвіньні, зарабляць, але не пакідай дома“... Міхалка добра разумеў, што

нават беднасьць яго бацькі ня можа быць перашкодай у тым, каб аддаць яго ў школу. Урэшце-ж ён усё-ж такі ня вытрымаў, падышоў да стала і выказаў абнадзейваючыя яго словы:

— Буду, татка, сьвіньні пасьвіць... Пастухом буду... Але дазвольце вучыцца.

І гэта было так выказана жаласьліва, з такім глыбокім пачуцьцём і пераконаньнем у сваёй мэце, што заставіла бацьку даць канчатковае рашэньне на карысьць сына.

— Няхай хіба так і будзе па яго...

Якою радасьцю павеяла тады ад усіх прысутных! Нібы страшэнная навала, сьмерць прашла міма любімага сына беспаваротна. Матка кумілём саскочыла з лаўкі і пачала раскладваць у печы...

Усе былі рады і здаволены. Толькі стары Янка ўсё яшчэ думаў над сваім бацькаўскім рашэньнем.

А. Якімовіч

## ВЯСНОЙ.

**Устала сонца над палямі
І цёплы ветрык зашумеў.
Прастор запеў і перад намі,
Прышоў канец, канец зіме.**

**О, дзеці, дзеці,—ясным сонцам
Усё ажыло ў палёх, лугох.
Над кожнай хатаю бясконца
Вяснова-новы сьпеў разьлёг.**

**Вясна, вясна—краса пpotraстораў,**

**Краса жыцьця і нашых дзён.
Бягуць руччы разгульна-горда
І радасьць звоніць у грудзёх.**

**Такой парой жыцьцё і песьня
І ў сэрцы радасьць чулых сноў,
Бо на пpасторах жыць ня цесна
І шчасьце піць і піць ізноў!**

**Анатолі Вір.**

## БЯСПРЫТУЛЬНЫ.

Горка жыцьцё сіраты:
Ні бацькі ні маткі няма...
А бяз бацькі, бяз маткі
Жывеш, як былінка у полі...

Болей ніхто ня прытуліць,
Як маці і бацька раней.
Нават ёсьць людзі такія,
Што сьмяюцца часамі з цябе!

Пад плотам ня раз ты начуеш,
Галоўку к зямлі прытуліўшы.
Ні ласкі, ні песьні ня чуеш,
Другія ня чуюць цябе.

Папросіш ты хлеба пад'есьці,
Хто дасьць, а хто й не.
І так ты жывеш адзінокі,
Як кветка адна ў старане.

Піонэр **М. Камінскі.**



# Наша жыцьцё

## На грамадзянскай працы.

*(1-шы Хоцімскі бел. атрад ю. п. Калінінскае акр.).*

Наш атрад мае 5 зьвеньняў якія носяць назвы „Коопэратар“, „Дапрызыўнік“, „Тэлеграфіст“ і г. д. і якія вызначаюць зьвяну самы характар працы і сувязі з адпаведнай грамадзкай установай.

Грамадзянскую карысьць нашае працы можна ўбачыць у дапрызыўных казармах, у падшэфным вясковым атрадзе і г. д.

Але-ж асабліва добрай працы няма. Гэта залежыць ад таго, што мы ня маем добрага клюбу. Так што добрых заняткаў з гульнямі і спортам праводзіць нэльга. Атрад з кожным сходам пашыраецца за лік неорганізованых дзяцей.

Піонэр **Ул. Севасьцянаў.**

## Праца палепшала.

*(Ст. Рудзенск, Меншчына).*

У нашым атрадзе налічваецца 57 піонэраў, з якіх 6 піонэраў перададзены ў комсамол.

Улетку праца йшла, як у большасьці вясковых атрадаў, кепска, затым, што большасьць піонэраў дзеці сялян. Але цяпер на зімовы пэрыод праца нашага атраду палепшала.

Зборы атраду, якія ўлетку былі толькі адзін раз у месяц, цяпер адбываюцца кожны тыдзень.

**Шавель.**

## Маем надзею.

*(Вёска Чапялі, Старобінскага раёну.)*

5-га сьнежня організаўваўся ў нашай вёсцы атрад піонэраў.

Цяжка было організоўвацца— дзеці баяліся ісьці ў піонэры, але дзякуючы добрай пастаноўцы справы ў нашым атрадзе ўжо знаходзіцца 20 піонэраў.

Праца пакуль што вядзецца слаба, але на далейшы час маем надзею, што праца пойдзе добра.

**Д. Нахмановіч.**

## Кор.-гурткі працуюць.

*(Менск, Гарадзкі раён).*

Пры некаторых атрадах і школах нашага раёну організованы дзіцячыя корэспондэнскія гурткі, якія ўжо распачалі працу. Райбюро ЮП вылучыла камісію з старэйшых піонэраў, якая кіруе працай гурткоў, робіць агляд сьценгазэт і г. д. Вядзецца падрыхтоўка да склíканьня агульна-раённай нарады дзеткораў.

**І. Зэльцар.**

## Наш край.

Люблю я край
Мой любы родны.
Цяпер ён наш,
Цяпер свабодны.

Шляхі... бярозы...
Зялёны гай...
Бацькі змагаліс тут
Дружна доўга,

Каб вольным бачыць
Свой родны край!

Піонэр **М. Дубінскі.**

## Сувязь з чырвонай арміяй.

*(Атрад № 32 м-ка Старобін.*

Наш атрад імя Варашылава трымае цесную сувязь з чырвонай арміяй. Чырвонаармейцы прыходзяць на сходы нашага атраду, праводзяць з намі гутаркі на тэму аб чырвонай арміі.

Нашы зьвеньні „Чырвоны Марак і „Авіохім“ трымаюць цесную сувязь з Балтыцкай флётай.

**Піонэр.**

## Наладзілі сувязь.

Наш 58-й атрад м-ка Прапойска наладзіў пісьмовую сувязь з тэр-палком, які стаіць на працягу 40 вёрст ад Прапойску. Зьмена нашага атраду напісала ліст і зацьвержаньне на зборы. Пасьля чаго гэты ліст паслалі ў полк.

Піонэры з радасьцю чакаюць адказ. **Д. Лабадаеў.**

## Мы расьцём.

*(М-ка Старобін).*

З пачатку 1925 году ў нашым мястэчку знаходзіўся толькі адзін атрад піонэраў. У сучасны момант мы маем тры атрады.

З кожным днём лік піонэраў павялічваецца. Рыхтуемся організаваць чацьвёрты атрад піонэраў.

**Піонэр.**



## Трэба падумаць.

*(М-ка Старобін, Слуцкае акр.).*

У большасьці пры піонэрскіх атрадах няма груп акцябрат. З



гэтай прычыны ўсе дзеці бегаюць па вуліцы за сабакамі, у той час калі яны маглі-б займацца чым-небудзь больш карысным.

Трэба на далейшы час старацца заснаваць пры кожным атрадзе піонэраў групы акцябрат. Аб гэтым трэба падумаць.

**М. Маршал.**

## Зьмянілі бюро.

*(Н-.Барысаў, 8-я школа).*

На агульным сходзе форпосту нашай школы старое бюро зрабіла справаздачу аб усёй зробленай працы.

Форпост павінен быў прымаць актыўны ўдзел у правядзеньні ўсёй працы, чаго нельга было заўважыць з боку нашага форпосту.

Гэта даказвае, што ня было ніякай сувязі з вучкомам. Ніякай арганізацыйнай працы сярод вучняў таксама не праводзілася.

На сходзе абралі новае бюро. Надалей маем надзею, што праца пойдзе добра.

**Л. Бардас і А. Фрумкін.**

## Сувязь форпосту з вучнямі.

*(60 атрад м. Соур).*

У нашай сямігодцы форпост за апошні час пачаў сваю працу праводзіць значна лепей. У прошлым годзе вучні ня ведалі, як працуе форпост, а ў гэтым годзе на агульных сходах робяцца інформацыйныя даклады аб працы форпосту.

Апрача гэтага, робяцца сходы піонэраў з вучнямі, дзе вучні падрабязна знаёмяцца з працай форпосту. **Піонэр-Комсамолец.**

**Піонэры і вучні! Рэдакцыя чакае ад вас допісаў аб працы ў сям'і, аб працы з акцябратамі і аб падрыхтоцўы да летняй працы.**



## Ідзі па Ленінскім шляху.

Песьні звонкія льлюцца наўкола.
Барабан юнакоў б'е, гудзе,—
Гэта з вёскі закурана-смуглай
Раць вялікая Ленінцаў йдзе!

Песьняй звонкай...
З вясёлымі тварамі,
Піонэр, ты шагай—
Раз... два... раз!..

Лад стары мы зруйнуем бяз жалю,
Маладняцкая
вольная раць!..
Дык шагай юны Ленінец сьмела
І трымай у руках Вольны сьцяг,
Йдзі бадзёра з вясёлаю песьняй...
Раз... два... раз!..
Йдзі на Ленінскі шлях.

**Кастусь Шавель.**

* * *

Комсамольцам, што жылі ў няволі
І да радасных шчэ дзён не дашлі,
Мы сёньня, ў дзень Першага Мая,
Апускаем сьцягі да зямлі.

О, прашлі ўжо мінулага зьдзекі,
Дні змаганьня за волю прашлі.
Нам ў прывольлі сёньня ня цесна,
Мы ў прывольлі свабоду знашлі.

**П. Пратасенка.**




Піонэры –у комсамол.

## Гісторыя нашай партыі.

*(Колектыўны твор вучняў 3 кл. Дасьледча-Паказальнай школы пры БДУ).*

Высокі тоўсты дуб рос у лесе. Гэты дуб самы большы і мацнейшы сярод сваіх суседзяў. Весела і спакойна яму жылося!

Ясная марозная раніца. Ніхто не парушаў цішыню; толькі дзе-ні-дзе каркала варона. Вось наехалі сяляне з сякерамі і піламі, пачалася гарачая праца.

Не спадзяваўся наш гэрой, што надышоў канец яго жыцьця!..

Заскрыпела піла, заляпалі сякеры, застагнаў дуб і зваліўся на зямлю мёртвым. Абсеклі сяляне сукі і верхаўё, парэзалі на бярвеньне, узлажылі на сані і адвезьлі на бераг рэчкі, якая была скована лёдам.

Прышла вясна. Узбунтавалася рака. Сяляне зьвязалі бярвеньне ў плыт і пагналі ў горад, дзе здалі іх на дрэваапрацоўчы завод.

Загудзелі машыны, запішчэлі пілы, і з нашага дубу зрабілі дошкі. Прасушыўшы, дошкі аддалі ў сталярню, дзе з іх змайстравалі нашу парту.

Вось як многа людзей працавала над партай, а неразумныя вучні псуюць яе, крэмзаючы алоўкам і рэжучы нажом!

## Перакупшчык ашукаў.

*(Колектыўны твор вучняў 3 кл. Д.-П. школы пры БДУ).*

Ясная раніца. Селянін-Сідар запрог каня, каб ехаць на рынак. Баба дала яму везьці прадаваць два фунты масла і пяць дзесяткаў яек. Яшчэ сонейка ня так высока паднялося на небе, як Сідар ужо ўехаў на Пярэспу.*)

А ў гэты час у бедна абсталяваным пакойчыку будзіла жонка перакупшчыка Язэпа. „Уставай, Язэпка, сонейка ўжо высока!" Апрануў Язэп кажушок, сагнуўся, белачок, і пашоў на дарогу купляць. Ня ўсьпеў селянін каню сена паддаць, як к яму падыходзе Язэп.

— Што прадаеш, чалавек?

— Яйкі, масла...

. . . . . . . . . . . . . . .

Адышоўся Язэп ад Сідара з вясёлай усьмешкай на вуснах, бо вельмі танна купіў тавар. А праз некалькі хвілін даведаўся селянін, што коопэратыў даражэй дае. Зразумеў тады Сідар сваю абмылку, апусьціў саромліва галаву і падумаў: „Каб я быў вучоны, мяне так не ашукалі-б!"

*) Пярэспа—акраіна г. Менску.

## Вока акцябронка.

Акцябронак Алёша вылупіў вочы, падняў бровы, дыхаць яму стала цяжка: ён нічога ня мог зразумець.

Ён толькі падняў сьвітку старэйшага брата, піонэра Васіля, як з кішэні выкінулася каробра папярос і сярнічак.

— Як-жа гэта так?.. Піонэры-ж ня кураць? І Васіль сам аб гэтым колькі разоў гаварыў дома, - нават бацьку сароміў, што той курыць... і бацька пасьля таго кінуў курыць. А тут у самога—папяросы ў кішэні!..

Алёша пазьбіраў папяросы і сярнічкі, пашоў на кухню і кінуў іх у вядро з вадой і сьмецьцем. Матка йшла каля яго і зьдзівілася:

— Адкуль гэта? Мусіць сусед учора ўвечары згубіў?

Праснуўся Васіль, Адзеўся. Бачыць Алёша,—шчупае, шукае Васіль нечага па кішэнях.

— Вось трасца!..—бармоча,—вось скандал! Няўжо згубіў?

Алёшка-разумнік, ён як нічога й ня ведае:

— Ты гэта чаго шукаеш? Можа, я ведаю?..

— Пашоў вон!..

— Ты згубіў што-небудзь?

— Ды нічога, адчапіся...

Тут Алёша, хітра прыплюшчыўшы вочы, сказаў паважна:

— А я хачу курыць пачаць, Васіль... нават папярос дастаў... і бацьку ўгавару.

Васіль раптам вызьверыўся ва ўсе вочы на акцябронка і ўвесь твар яго запаланеў агнём.

Увесь Алёшын тварык меў хітры выгляд. І Васіль адразу зразумеў...

— Маўчы! Чуеш ты?.. Будзеш маўчаць?—спужана сказаў ён.

— Так, пакуль ты курыць не пачнеш...

— Дзе ты дзеў папяросы?

— У вядро кінуў!.. Матка і то зьдзівілася, адкуль яны ўзяліся?..

Добра бачыць вока акцябронка. Нідзе ад яго нельга схавацца. Да і сорамна Васілюпіонэру ад вока акцябронка.

**А. Фёдараў-Давыдаў.**

# ЮНЫЯ КОМУНАРЫ.

*(З жыцьця і працы Інтэрнацыянальнага дзіцячага гарадка імя А. Г. Чарвякова).*

Дзіцячы гарадок імя А. Г. Чарвякова знаходзіцца ў г. Менску па Савецкай вуліцы.

На вялізнай плошчы асобнага двара раскінуліся паводаль адзін ад другога чатыры досыць вялікія будынкі. Усе гэтыя будынкі складаюць прыемнае ўражаньне ў гледача сваім надворным выглядам і разьмяшчэньнем.

Раней тут у гэтых дамох жылі і раскашаліся багатыя людзі—паны і буржуі. Цяпер яны зьяўляюцца месцам, дзе рабочыя і сяляне выхоўваюць і вучаць сваіх дзяцей—будучых будаўнікоў новага комуністычнага ладу жыцьця.

З'організаваўся Дзіцячы Гарадок з дзяцей самага бяднейшага насельніцтва і дзяцей сірот, бацькі якіх загінулі ў часе вайны.

Усіх зяцей у „Гарадку“ зьмяшчаецца 260 чал. Апрача гэтага, „Гарадок“ мае яшчэ сваю колёнію „Восава“ (у 12 в. ад Менску), дзе цяцер у часе зімы жыве ўсяго 30 чалавек. Колёнія „Восава“ бывае перапоўнена дзецьмі „Гарадка“ толькі ўлетку. Яна зьяўляецца для дзяцей лягерам і месцам, дзе яны прывучаюцца да сельска-гаспадарчай працы. Працуюць самі ў колёніі і набываюць праз гэта неабходныя веды і па гаспадарцы і па агрономіі; вучацца быць добрымі і сьвядомымі гаспадарамі.



Ленінскі куток у „Гарадку“.

У „Гарадку“ растуць і выхоўваюцца дзеці амаль што ўсіх нацыянальнасьцяй, якія жывуць у Беларусі. Гэта адзін з узорных асяродкаў, дзе разам, у аднэй таварыскай сям'і-колектыве растуць і працуюць будучыя комунары розных нацыянальнасьцяй, атрымліваюць правільнае і сьвядомае інтэрнацыянальнае выхаваньне.

Амаль палова дзяцей з'організавана ў піонэрскія атрады. Атрады ў большасьці організуюцца па нацыянальнаму складу, што дае магчымасьць ім весьці працу на сваёй роднай, зразумелай мове. Усіх атрадаў у „Гарадку“ маецца пяць, якія аб'ядноюць у сабе 127 дзяцей. Пры кожным атрадзе організаваны групы акцябрат—піонэрская зьмена. Старэйшыя піонэры часткай пярэданы ўжо ў комсамол. Яны працуюць у атрадах, як піонэрскі актыў.

Усе атрады складаюць адну піонэр-базу. Піонэр-база мае свой савет, агульны для кіраўніцтва ўсімі атрадамі, групамі акцябрат і піонэрамі-комсамольцамі. Гэта вышэйшы орган „Гарадка“, які кіруе ўсёй працай і выхаваньнем організаваных у атрады дзяцей і праводзіць праз атрады свой уплыў на рэшту дзяцей, якія яшчэ па тых ці іншых прычынах формальна не аб'яднаны ў атрады. Хоць трэба сказаць, што неорганізаваныя дзеці і дзеці-піонэры нічым ня розьняцца ў „Гарадку“ адно ад другога. Усе яны аднолькава прымаюць удзел у працы, усе ходзяць на заняткі зьвеньняў, сходы атрадаў. Па соцыяльным становішчы дзеці не падзяляюцца на асобныя групы, якія мы маем пакуль што ў вёсцы або ў горадзе. Тут жывуць дзеці-сіроты і дзеці самых бедных бацькоў, якія самі ня могуць утрымаць сваіх дзяцей і даць ім належнае комуністычнае выхаваньне.

### „Гарадок“ за працай.

Шумнае і бурлівае жыцьцё „Гарадка“ бывае толькі зраньня і ўвечары.

У 7 г. раніцы ўвесь „Гарадок“ ужо на нагах. Глухія сьцены будынкаў напаўняюцца зыкам, говарам, сьмехам і песьнямі дзіцячых галасоў. Гэта пачынаецца падрыхтоўка дзя-

цей да сьнеданьня. Пасьля сьнеданьня ўвесь „Гарадок“ разыходзіцца па школах. Вучацца дзеці ў розных школах-сямігодках г. Менску. Спакойны і маўклівы „Гарадок“ без сваіх вясёлых і жыцьцярадасных жыхароў. У гэты час застаюцца ў „Гарадку“ толькі дзяжурныя ды кіраўнікі—настаўнікі.

Але з трох гадзін ізноў ажывае „Гарадок“. З заняткаў зьбіраюцца яго жыхары—дзеці. Пачынаецца гарачая падрыхтоўка да абеду на кухні і самы

### Абед.

У „Гарадку“ адна толькі кухня на 270 чалавек. Абед—гэта самы цікавы момант з жыцьця „Гарадка“. Па клічу сыгналу ўсе дзеці, хто як стаіць ці сядзіць, галёпам бягуць навыперадкі ў знаёмую і родную іх жыватом сталоўку. Але сталоўка ўсіх за-



Дзеці за абедам.

раз адмаўляецца накарміць (не хапае месца), і частка дзяцей застаецца чакаць другой чаргі.

Сталоўка займае сабой два досыць вялікія пакоі. У сталоўцы існуе пэўны парадак і свая „сталоўская“ дысцыпліна. Тут, брат, з жартамі ды з гульнямі не разгорнешся, зразу „падпілуюць табе рогі“.

Калі мне пачаў гаварыць загадчык „Гарадка“ аб сталоўцы, я, не дачакаўшыся яшчэ азнаямленьня з правіламі трыманьня ў ёй дзяцей, запытаўся:

— А як-жа ў вас з міскамі і дзіцячымі лбамі стаіць справа ў часе абеду?..

— Не, брат, гэтага тут не дазволяць сабе зрабіць самі-ж дзеці. На тое-ж маюцца іх дзяжурныя, якія раздаюць абеды і глядзяць за ўсімі парадкамі і чыстатою.

Дзеці добра ведаюць аб гэтых парадках і ніякіх непаразуменьняў не дазволяць дапусьціць. Дзеці адчуваюць сябе ў сталоўцы так, як і на зборы атраду ці ў школе. Арганізаванасьць жыцьця прывучае іх да гэтага.

### Жывая вытворчая праца.

А пятай гадзіне вечару пачынаецца праца дзяцей у сваім „Гарадку“. Тут вы знойдзеце дзяцей і на занятках зьвеньняў, сходах атрадаў, паседжаньнях розных камісій і ў сваіх вытворчых майстэрнях.

Самы цэнтр працы—гэта майстэрні. „Гарадок“ мае некалькі сваіх майстэрань, сярод якіх на першым месцы і па зацікаўленасьці дзяцей да працы і па вытворчых дасягненьнях стаяць тры: кравецкая, сталярная і шавецкая. Кравецкая майстэрня арганізуе вакол сябе 90 дзяцей. На вялікі жаль, усе дзяўчаткі краўчыхі. Хлапцы ня любяць займацца гэтай работай, лічаць, што ім трэба займацца больш складнейшай і цяжэйшай. А рознае шыцьцё гэта—справа дзяўчат.

Кравецкая майстэрня мае 11 машын. Працуюць у ёй па зьменах. Кожная зьмена складаецца з 15 асоб. Майстэрня цалкам абслугоўвае патрэбы „Гарадка“. Тут шыецца і бялізна, і сьвіткі, і рубашкі, і штаны і інш. Разьмеркаваньне працы паміж хлапцамі і дзяўчатамі пастаўлена вельмі добра. Хлапцы робяць для дзяўчат розныя табурэткі, зэдлі, шыюць ім і латаюць чаравікі. Дзяўчаткі таксама ў даўгу не застаюцца. Яны шыюць для хлопцаў штаны, рубашкі, латаюць іх, ушываюць гузікі, калі вырвуцца, і інш.

Сталярная майстэрня мае 8 варштатаў з усім належным начыньнем. Працуюць у ім 8 чал. Апрача сваёй працы, тут выконваюцца часамі заказы і ад іншых устаноў. Хлапцы-сталяры вельмі зацікаўлены ў сваёй справе, добра вучацца і добра працуюць.

### Аб піонэрах.



Спортыўныя заняткі.

Організатарам сьвядомага грамадзянскага жыцьця дзяцей нагогул зьяўляюцца піонэры. Яны сваім прыкладам у працы ўцягваюць у такую-ж актыўную працу і ўсіх іншых дзяцей.

Піонэрамі організаваны розныя куткі, насьценныя газэты, вакол якіх выяўляецца ўся творчасьць дзяцей. Маюцца і асобныя газэты акцябрат. Выдаецца колектыўна ўсім „Гарадком“ часопісь „Малады будаўнік“. Піонэры-ж зьяўляюцца організатарамі розных цікавых вечароў, гутарак, гульняў і інш. У школах піонэры „Гарадка“ таксама ідуць наперадзе і прыцягваюць сваім прыкладам да актыўнага ўдзелу ў грамадзянскім жыцьці школы ўсіх вучняў. Піонэры працуюць у розных вучнёўскіх камісіях і органах самакіраваньня—як вучнёўскіх, так і піонэрскіх.

Цэнтрам грамадзянскай працы і выхаваньня ў „Гарадку“ зьяўляюцца куткі і газэты. У кутках дзеці працуюць, чытаюць, самі твораць аж да 11 г. вечару.

Добра наладжана праца ў гуртках: політычным, драматычным, літаратурным і спортыўным і інш. Кожны вывучае тое, што яго больш усяго цікавіць і выяўляе свае творчыя сілы ў тым, да чаго мае нахіл і імкненьне.

Апрача агульных абавязкаў, кожны выконвае яшчэ свае абавязкі ў тых розных гуртках, камісіях і кутках, у якіх ён працуе па ўласным жаданьні.

Так жывуць і выхоўваюцца дзеці-сіроты і дзеці бяднейшага насельніцтва ў „Гарадку“. Так расьце і дужае ў сваіх сілах, загартоўваецца ў напрамку сьвядомага колектыўнага комуністычнага жыцьця ленінскае пакаленьне юных комунараў Беларусі.

N.

## Небясьпечныя ўцекачы.

*(Вялікі ўчынак амэрыканскага машыністага).*

Ужо цямнела, і надвор‘е было хмарным, калі машыністы Стронг і яго памоцнік Лі прынялі ад змазчыкаў сваю машыну „№ 65“.

Цёмныя вялізарныя абрысы паравозаў, якія напаўнялі ўсё дэпо, слаба выдзяляліся пры сьвецеліхтароў, з якімі хадзілі вакол іх змазчыкі і сьлесары. Там была і высокая машына новага тыпу „Ледзі Олівія“, якая вазіла з хуткасьцю віхуры раскошныя, яскрава асьветленыя ў начы вагоны экспрэсу, і старамодняя „Маргарыта, якая толькі што вярнулася для адпачынку пасьля цэлага дню працы, і другія вяльможныя жыхары і невяльможныя жыхары агромністага дэпа.

Паравоз „№ 65“ з легкім сьвістам і шыпеньнем выпаўз з свайго аддзяленьня і накіраваўся да паваротнага кругу. Два чалавекі дружна наляглі на падважнік (рычаг), і вялізарны паравоз стаў памалу апісваць круг, потым застанавіўся, даў сьвісток і лёгка пакаціўся па рэйках к цягніку, які яго чакаў. Прамільгнуўшы міма складаў, сыгнальных будак і гор вугалю, паравоз зьменшыў ход і хутка ціха стукнуўся буфэрамі аб пярэдні вагон са знарадамі, якія ён павінен быў даставіць у прыморскі горад Бігбэры для адпраўкі на фронт.

У добрую пагоду і з такім грузам да Бігбэры было ня больш дзьвёх гадзін ходу. Але на гэты раз абставіны справы былі дрэннымі. Паднімаўся вецер, ішоў дождж, які рабіў рэйкі сьлізкімі, а склад цягнікоў з цяжкімі знарадамі налічваў цэлых сорак вагонаў. Стронг ведаў, што яму прыдзецца ўсялякімі спосабамі „ладзіць“ з сваёй машынай, каб толькі прысьці ў час. Паравозы, як і коні, ведаюць свайго гаспадара. „№ 65“ быў здольным на цуды ў руках Стронга; у чужых руках яму здаралася і фанабэрыцца на пад‘ёмах, як робяць коні „з норавам“.

— Усё ў парадку, Стронг?—запытаўся машыністага дзяжурны па станцыі, паглядаючы на гадзіньнік і затым на блiскучую мядзяную дошчачку паравоза.

— Усё ў парадку!—адказаў Стронг,—здаецца, што ноч будзе цёмная.

— Так, шчасьлівай дарогі!

Даўшы сьвісток, „№ 65“ важна рушыўся ў дарогу, як быццам адчуваючы небясьпеку таго цяпер цяжару, які ён цягнуў за сабою. Праз пяць хвілін аганькі гораду ўжо мільгацелі ўдалі, на адлегласьці дзьвюх вёрст, а цяжкі цягнік каціўся па рэйках з хуткасьцю трыццаці міль у гадзіну.

Пасьля лёгкай і роўнай часткі дарогі хутка пачынаўся пад‘ём, які цягнуўся на 10 міль, спачатку адходны, з пасьля даволі круты. Шмат паравозаў бралі гэтую частку перагону а трудом, але „№ 65“ са Стронгам у якасьці машыністага і з Лі ў якасьці яго памоцніка добра спраўляліся з задачай. Пасьля гэтага дарога станавілася роўнаю, толькі месцамі пераходзіла ў лёгкія нахілы. Гэта была лепшая частка дарогі. Калі вы спазьніліся, то маглі нагнаць тут згублены час; калі не спазьніліся, то маглі паменшыць ход і заставіць вугаль на прэмію, якая выдавалася найбольш ашчэднаму



Дапамога дзяцей у гаспадарцы.

машыністаму. Але вось роўная дарога скончылася, і пачынаўся зноў пад‘ём. Як ні стараўся Лі, падкідаючы вугаль у печ, але сорак цяжкіх вагонаў— ня жарты, і, узьбіраючыся на ўзгорак, „№ 65“, можна сказаць, з трудом пераводзіў дух. Стронг ня зводзіў вачэй з рэгулятара і паддаваў дух машыне сяброўскімі вокрыкамі, як быццам яна была жывая.

— Разумею цябе, таварыш,—кажа ён,—супроць гэтага праклятага ветру ды з гэтакім цяжкім хвастом! Ну, ну, мацуйся, сяброк!

Урэшце, верхавіна ўзгорку была дасягнута. З палёгкай уздыхнуў Стронг, выпусьціў вялікую частку пары, і доўгі цягнік памалу стаў спускацца з процівалежнага нахілу ўзгорку. Ён прыбавіў ходу, а Строн палез у кішэнь за закускай.

Але ня ўсьпеў ён праглынуць і першага куска, як раптам прыслухаўся і, як-бы пытаючыся чаго, паглядзеў на свайго памоцніка. Той таксама прыслухаўся. Цягнік хутка спускаўся па нахіле. Але ці ня вельмі хутка? Іх вопытнаму слыху шум цягніка здаваўся ня вельмі нормальным.

Трымаючыся аднэй рукою за ручку, Лі далёка высунуўся з паравоза і глянуў на ліхтар апошняга вагону, які пазваляў машыністаму сачыць за хвастом свайго цягніка. Ліхтара ня было.

— Адчапіліся два вагоны!—крыкнуў ён.

Стронг нахмурыўся. Вагоны адчапіліся, напэўна, пасьля таго, як цягнік пераваліў праз верх узгорку. Калі-б гэтае здарылася ў часе пад‘ёму, то ён прыкмеціў-бы ўзмацніўшуюся, дзякуючы зьмяншэньню цяжару, хуткасьць. Хутчэй за ўсё гэта магло здарыцца ў той момант, калі цягнік на спуску ўзмацніў ход. Мабыць, няспраўныя крукі аслаблі ў часе пад‘ёму і, урэшце, ня вытрымалі напружаньня, калі паравоз мацней пацягнуў іх на спуску. Як-бы там ні было, за цягнікам гналіся зараз два вагоны са знарадамі, якія маглі ўзарвацца пры спатычцы. Урэшце, за цягнік Стронг не баяўся. Ён бяз працы мог узмацніць ход, дабрацца ў часе да Бігбэры і стаць на запасную дарогу. Але якая сіла магла спыніць два цяжкіх вагоны, якія каціліся па нахілу? Даляцеўшы да станцыі, яны нямінуча павінны былі наляцець на будынак вогзалу і ўзарваць на паветра, прынамсі, чацьвертую частку гораду!

Бясспрэчна, што начальнік станцыі будзе папярэджаны па тэлефоне кім-небудзь з служачых на старажавых лініях. Але што ён можа зрабіць?

Паслаць насустрэч уцекачом арцель рабочых, якія папсавалі-б дарогу і прымусілі-б іх сыйсьці з рэйкаў? Але залюднёны раён станцыі цягнуўся так далёка за межы гораду, што ўзрыў пры раптоўным супыненьні вагонаў усё роўна прынясе шмат бяды.

Усе гэтыя думкі маланкаю мільганулі ў галаве Стронга, а затым іх зьмянілі другія.

— Добра, мы вось што зробім! Даедзем да разьезду „Носэ“, заставім свае вагоны на запасных рэйках, прапусьцім уцекачоў, а пасьля спробуем дагнаць іх. Згодзен на гэта, старына?

Лі маўчком кінуў галавою і ўхмыльнуўся, як быццам гэта думка была якраз па яго густу.

У той-жа момант паравоз моцна рвануўся наперад, таму што Стронг пасунуў рэгулятар на поўны ход. Спачатку колы яго завярцеліся па мокрым рэйкам, пасьля ўзялі, і цягнік поўным ходам памчаўся наперад. Паравоз як-бы зразумеў, што ад яго патрабавалася напружнасьць усіх сіл, імчаўся без адзінай запінкі на працягу цэлых сямі міль поўным ходам; урэшце наперадзе мільганулі вагончыкі разьезду, і Лі памайстраўскі супыніў цягнік супроць самай будкі з надпісам „Разьезд Носэ“ пад ліхтаром. З акна будкі высунуўся ўзрушана твар дзяжурнага.

— За намі два ўцекачы!—гукнуў яму Стронг, высоўваючыся з асьветленага машыннага аддзяленьня пад дождж і вецер цёмнай ночы.

— Так, ведаю. Два вагоны адчапіліся! Але чаму вы тут супыніліся? Ідзеце хутчэй! Ці ёсьць у вас хаця й пяць хвілін у запасе!

— Дайце мне хутчэй запасную дарогу, я прапушчу ўцекачоў, пасьля дараню. Зразумелі? Памагайце хутчэй!

— Зразумеў. Цудоўная ідэя!—адказаў дзяжурны, хаваючыся ў акне.

Усьлед за гэтым на асьветленым акне мільгануў яго вагромністы цень, зазьвінела штосьці ў цемры, і дзяжурны зноў высунуўся з акна.

— Гатова!—сказаў ён.—Руш!

Праз пяць хвілін цягнік стаяў на запаснай дарозе, а паравоз „№ 65“, адчэплены ад яго, лёгка каціўся задам на лінію, якая ў глыбіні разьезду зьлівалася з галоўнай лініяй.

Было цёмна. „№ 65“ у напружным чаканьні стаяў у сваёй засадзе і пыхкаў. Калі Лі адчыніў дзьверцы „топкі“, чырвоны сьвет полымя заліў усю машыну. Яна стала падобна на нейкі вулькан, які выкідаў полымя і дым. Потым Лі, упэўніўшыся, што ўсё ў парадку, зачыніў дзьверцы і зноў вагромная машына стала цёмным ценем. А машыністы і качагар з напружаньнем чакалі шуму вагонаў, якія набліжаліся.

— Вось яны!—шапянуў Лі.

Пачуўся воддаль стук калёс, якія ўсё ўзмацняўся, а таксама зьявіўся маленькі чырвоны агоньчыкі Яшчэ момант—і міма паравозу праімчаліся, але ня два, а цэлых дванаццаць вагонаў, якія адчапіліся, нясучыся, як ашалелыя, у цёмру. Ня трацячы ні хвіліны, Стронг асьцярожна выпусьціў пару, і верная машына бяз шуму рушылася па рэйках. Пасьля, паступова ўзмацняючыся, яна загрымела і зашумела і панеслася ўсьлед за ўцекачамі на галоўную дарогу да Бігбэры.

„№ 65“ ня быў бліскучым паравозам, які толькі возіць раскошныя вагоны з вялікімі людзьмі, ён ня прывык глытаць адлегласьць па мілі ў хвіліну. Але ў гэтую цёмную ноч, паслухмяны руцэ дасканалага майстра, ён пабіў рэкорд хуткасьці і перавысіў усіх любімцаў жалезна-дарожнай кампаніі і балаўнікоў-змазчыкаў, якія з такою ганарыстасьцю любаваліся імі.

Стронгу і Лі здавалася, што яны несьліся праз нейкі тунэль, напоўнены віхурамі і водгульлямі. Бачыць, што мільгала міма іх, яны не маглі. Яны заўважвалі толькі па шуму, які зьмяняўся, што мінулі мост, тунэль і некалькі дамоў старажоў. Парваная ветрам пара тонкім слоем лажылася за імі на пройдзеным шляху.

Уцекачы мчаліся хутчэй, чымся Стронг разьлічваў. Калі, урэшце, ён прымеціў удалі два хвастовых ліхтарыкі вагонаў, ён з жахам падумаў, што мабыць, было ўжо позна.

— Не зьмяншай ходу, калі мы іх дагонім,—сказаў ён Лі.

Той зразумеў і кіўнуў галавою. Яны мчаліся далей. Вось аганькі задняга вагону сталі расьці і ясьнець. Вось, урэшце, іх адлучаюць ад паравозу ўсяго некалькі крокаў. Тады, высунуўшыся з паравозу і далей трымаючы руку на рэгулятары Стронг дагнаў вагоны, зьлёгку аслабіўшы ход машыны. Пачуўся лёгкі стук буфяроў, і зараз-жа Стронг зноў узмацніў ход.

— Трымай-жа так,—сказаў ён тады свайму памоцніку, а сам выбраўся з машыннага аддзяленьня. Яго спаткалі віхура і дождж, але яны ня спынілі, нават на момант не затрымалі яго.

Ён прабраўся на пярэднюю частку і лёг ніцма, потым стаў асьцярожна спаўзаць уперад, стараючыся зачапіць адзін з ланцугоў. Яму здавалася, што ніколі ня ўдасца дабрацца, дацягнуцца да ланцугу і закінуць яго за крук вагону.

Але гэтае ўдалося яму, і тады ён стаў лавіць другі ланцуг, баючыся, што злучэньне з аднаго толькі боку ня будзе даволі надзейным.

Чуць ня прышлося яму адмовіцца ад гэтага замеру. Ён быў напалову асьлеплены ветрам і даждждом, але ўпарта рабіў свае спробы і, урэшце, накінуў другі л нцуг на другі крук. Ланцугі хісталіся слаба, зразумела, але закруціць іх у Стронга не хапіла сілы.

З падножкі Лі ўбачыў руку, якая яму матала, пачуў хрыплівы крык і ў той-жа момант выпусьціў пару. Потым ён стаў памаленьку рухаць рэгулятар, паступова зьмяншаючы ход машыны. І так-жа паслухмяна, як нёсься ўперад, „№ 65“ пачаў памалу сутрымоўваць бег вагонаў.

Стронгу гэты час здаваўся вечнасьцю. З зачыненымі вачыма, з зьмяртвелым белым тварам, увесь змокшы да касьцей, ён з трудом поўз назад, думаючы аб тым, ці пасьпеюць яны супыніць машыну, і кожную хвіліну чакаючы страшэннага ўзрыву. Калі ён, урэшце, мог аглянуцца, то ўбачыў, што яны мчацца ўжо па Бігбэры. Тады ў адчаі ён падскочыў к рэгулятару і зрабіў той манэўр, які інжынэры дапускаюць толькі ў крайніх выпадках. Ён крута затармазіў машыну і зараз-жа даў задні ход.

Агні станцыі былі ўжо недалёка. Праз некалькі хвілін цягнік супыніўся ў самым канцы станцыі, якая была сваячасова эвакуавана.






# Дзіцячы рух ва ўсім сьвеце.

## Японія.

Звычайна ў нас думаюць аб тым, што на Ўсходзе культура ня мае добрага і сталага разьвіцьця. Калі-ж мы прыгледзімся да гэтага бліжэй, то пабачым, што гэта зусім ня так.

Возьмем хоць-бы Японію. Хто можа сказаць, што там слабая, ня маючая сталага разьвіцьця культура? Ніхто! Бо там 90 проц. дзяцей школьнага ўзросту вучацца ў школах.

У японскіх школах шмат увагі зьвяртаюць на разьвіцьцё фізычнае культуры. Але ўсё гэта робіцца не для таго, каб падрыхтаваць моладзь да барацьбы супроць буржуазіі.

Якраз наадварот.

Уся сыстэма адукацыі, фізычная культура—патрэбны японскай буржуазіі затым, што ёй патрэбны добрыя і пісьменныя рабочыя. Пасколькі гэтыя фірмы выхоўваюць „верноподданных“ людзей, дзеці ў школе зараз-жа з першага дня пападаюць у зубы буржуазнаму млыну, які выцягвае з іх усе сілы, усё здароўе і жыцьцё. Апрача гэтага, у прамысловасьці ёсьць 200 тысяч няпісьменных.

Калі ў Японіі налічваецца 5 міліёнаў рабочых, то з іх дзяцей (да 12 гадоў), падросткаў (да 18 гадоў)—1.409.186 чалавек. Пісьменны разумны хлопчык або дзяўчынка можа замяніць у некаторых выпадках дарослых людзей, а тым болей, што плаціць ім можна меней, чым дарасламу рабочаму.

Дзіцячая праца наогул цэніцца вельмі танна, але буржуазія хоча, каб гэтая праца абходзілася яшчэ таней. З гэтай прычыны яны набіраюць на фабрыкі большай часткаю дзяўчынак (763.071). Уся гэтая дзіцячая маса працуе ў вельмі кепскіх абставінах. Працуюць 10-11 гадзін.

І вось затым, што рабочыя дзеці ўвесь свой час аддаюць на працу на вытворчасьць, аддаюць буржуазіі—у Японіі да гэтага часу няма дзіцячага комуністычнага руху.

Які-ж рух у Японіі ёсьць?

Бязумоўна такі, які карысны буржуазіі.

Ёсьць цяпер у Японіі 1.557 бой-скаутскіх організацый, у якіх маецца 217.563 сябры. Уся гэта маса—дзеці буйнай і дробнай буржуазіі, няма толькі дзяцей рабочых з тае прычыны, аб якой мы гутарылі вышэй.

Ці ёсьць магчымасьць і грунт для організацыі ў Японіі дзіцячага комуністычнага руху? Цяпер там расьце компартыя, расьце комсамол. Разам з гэтым расьце нездаволенасьць дзяцей тымі парадкамі, якія існуюць у школах. Усё гэта дае магчымасьць думаць, што ў хуткім часе японскія рабочыя дзеці прылучацца да нашай піонэрскай організацыі.

**Старэйшы.**

# Ліст піонэраў г. Харкаву да Менскай організацыі піонэраў*).

Мы, піонэры г. Харкаву, 4-ае рабочае поліклінікі, цікавімся працаю піонэраў г. Менску і жадаем памяняцца сваім вопытам працы, каб у далейшым паставіць ляпей сваю працу. Для гэтага мы *хочам завязаць з вамі перапіску, чым і будзем дапамагаць устанаўленьню сувязі піонэраў СССР*, і мы спадзяёмся, што вы зацікавіцеся перапіскаю і з свайго боку будзеце яе падтрымоўваць.

Ну, а цяпер што-небудзь аб нашай рабоце, інакш кажучы, аб тым, якім чынам праводзіцца ў нас праца. Параўнаўча ня вельмі даўно ў нас на Украіне, а ў прыватнасьці ў нашым колектыве ўведзена атрадавая сыстэма і ўзяты курс на грамадзянска-карысную працу піонэраў. У нас 2 атрады, усяго каля 100 дзяцей. Працаю кожнага атраду кіруе савет зьвеньневых: з сакратара, яго памоцнікаў, зьвеньневых і іх памоцнікаў. Акрамя гэтага, раз у месяц зьбіраецца агульна-колектыўны савет, у які ўваходзяць саветы абодвых атрадаў. Савет колектыву кіруе работаю абодвых атрадаў, разьвязваючы пытаньні, якія кожным атрадам у васобнасьці вырашацца ня могуць.

Прыкладам можа быць пытаньне аб камісіях. У нас тры камісіі: санітарная, рэдакцыйная, культурнае сувязі. Гэтыя камісіі агульна-колектыўныя, бо яны праводзяць працу ў межах усяго колектыву, і абіраць іх, а гэтак сама намячаць пляны іх працы савет атраду ня можа. Гэта робіць савет колектыву. Наогул-жа мы імкнемся зьмяншаць лік камісій, каб не ўтвараць лішніх нагрузак. Вось таму лёгкія работы, як работы гаспадарчае кам., бібліотэчнае

*) Рэдакцыя просіць тыя атрады або раён, які адгукнецца на гэты ліст і ўстановіць сувязь з піонэрамі г. Харкаву, паведаміць аб гэтым рэдакцыю.

ком., мы перадаём зьвеньням. Гэта дае магчымасьць разгрузіць дзяцей, бо тую самую працу пры адсутнасьці камісіі выконваюць 2 –3 піонэры, а ў зьвяне яе разьмяркоўваюць паміж усімі сябрамі. Такім чынам усе нагружаны роўна. У нас кожны піонэр мае толькі адну нагрузку, з прычыны чаго заняты ў колектыве ня больш 3-х раз у тыдзень (агульны збор, зьвяно або савет атраду, або камісія), выключаючы асобныя выпадкі (падрыхтоўка да спэктаклю і г. д.). Галоўнай працай нашых зьвеньняў зьяўляецца грамадзянска-карысная праца, якая выяўляецца ў дапамозе комсамольцам і рабочым у іх працы. Напрыклад, у нас праводзілася компанія пераабраньня ў Горацкі савет, і піонэры многа дапамаглі ў гэтым старэйшым тым, што малявалі плякаты, дыяграмы і інш. Наогул-жа, мы дапамагаем ячэйкам розных грамадзянскіх організацый, як, напрык.: МОПР, Аэрохім і інш., распаўсюджваючы літаратуру і дапамагаючы ўсім іншым, чым толькі можам. Апрача гэтага мы трымаем сувязь з вясковымі піонэрамі і дапамагаем ім у іх працы; каб больш дапамагчы вёсцы, мы ўваходзім у таварыства культурнае сувязі і часта робім выезды на вёску.

Гэтак сама ў нас ёсьць група ў 20 асоб чырвоных зорак. Праца іх яшчэ ня зусім наладжана.

Наш колектыў добра зьвязаны з комсамольскай ячэйкай: большасьць піонэраў прысутнічае на комсамольскіх сходах, а 9 асоб ужо сапраўдныя сябры.

Ну, на гэты раз хваціць. У наступны раз падрабязьней апішам нашу працу.

З сяброўскім прывітаньнем піонэры г. Харкаву, 4-е раб. поліклініка.

Чакаем адказу.

Наш адрас: *г. Харкаў, Пушкінская вуліца № 32, 4-ая рабочая поліклініка. Для піонэраў.*

## Агляд савецкага параходу юнымі спартакаўцамі Нямеччыны.

60 юных піонэраў гамбургскага саюзу „Юны Спартак“ стаялі на зборным пункце, цярпліва чакаючы, калі яны рушацца ў дарогу.

Ад кожнай групы зьявілася па тры піонэры, якія павінны былі накіравацца на расійскі параход. Урэшце, мы рушыліся. Наперадзе йшлі барабаншчыкі і трубачы, усьлед за імі атрады піонэраў. На нашым шляху, аднак, спаткаліся перашкоды ў асобе даглядача за парадкам гіндэнбургскага ўраду, які стаяў на пасту перад будынкам суду. Ён, як відаць, ня мог глядзець на чырвоны колер без нянавісьці: выгляд нашых піонэрскіх гальштукаў і істужак прыводзіў яго ў шаленства. Ён падышоў да нашае процэсіі і заявіў, што ў цэнтры гораду злучанымі шэрагамі хадзіць забараняецца. Пасьля тлумачэньня аднаго з нашых таварышоў ён перапусьціў нас, і мы рушыліся далей.

Яшчэ здалёк убачылі мы савецкі сьцяг. Наша цікавасьць павялічвалася з кожным момантам. Урэшце, мы ўбачылі першых расійскіх таварышоў, якія з уздымам нас віталі. Мы азнаёміліся з усім, што знаходзілася на параходзе. Расійскія таварышы тлумачылі нам усё, аб чым мы іх толькі ні пыталіся, хаця і не заўсёды на чыстай нямецкай мове. Асабліва цікавіліся мы жыцьцём расійскіх піонэраў. Мы засыпалі іх пытаньнямі. І расійскія таварышы ахвотна адказвалі нам.

Пасьля скокаў і гульняў было частаваньне. Мы былі вельмі зьдзіўлены, калі апрача кавы і бутэрбродаў, пакрытых вялікімі кавалкамі сыру і каўбасы, мы атрымалі яшчэ шоколяд і какао.

А затым мы зноў гутарылі, сьпявалі і скакалі. Як добра правялі мы гэтыя гадзіны ў цесным яднаньні з расійскімі таварышамі, і як не хацелася нам пакідаць савецкі параход. З смуткам выслухалі мы адвітальную прамову і з глыбокім жалем разьвіталіся з расійскімі таварышамі, якія нас так добра прынялі.

На разьвітаньні мы, гамбургкія піонэры, далі ўрачыстае абяцаньне працягваць нашу працу, усё больш вучачыся працаваць па заветам Леніна... Мы ўсе нашы сілы аддадзём на тое, каб ухутчыць час рэволюцыі ў Нямеччыне. Тады рушацца сьцены, якія падзяляюць нас ад Савецкага Саюзу, і мы зможам працягнуць руку расійскім піонэрам для сяброўскага саюзу.

З нямецкай піонэрскай часопісі
„Юны Спартак“.






**Незадаволены.**




Матка.—Гэта-ж чаго ты расплакаўся, сысунок?

— Я выцытаў у часопісі, сто мяне ня плымуць ясцэ ў акцяблаты, бо мне ясцэ няма васьмі гадоў...

**На сходзе дэлегатак.**



— Т. т. кабеты! Мы яшчэ ня маем поўнага роўнапраўя з мужчынамі. Каб добра весьці барацьбу з гэтым злом, мы павінны аб'яднацца ўсе ў піонэрскія атрады...

**Балючае пытаньне.**



Піонэр:—Гэта што?— „Экономическая жизнь“?

Акцябронак: — Цікаўлюся пытаньнем эканамічскага зыцьця.

— Пара табе ўжо высьці з дзіцячага ўзросту. Чытай лепш „Савецкае будаўніцтва“.

**Задача.**

**№ 1.**

Пераставіць літары фігуры так, каб можна было прачытаць 6 слоў, адзна-



| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | А | | А | |
| А | Б | Б | К | Л |
| | Л | М | М | |
| П | Р | С | С | Ш |
| | Я | | Я | |

чаючых: 1) правадыр працоўных; 2) брак, знак, запэцканае месца; 3) аружжа; 4) організацыя моладзі; 5) голас; 6) імя дзяўчынкі.

## Парада.

Мамка, мамка, хутчэй гляньце,
Што за штука стала—
У гладыш з салодкім млекам
Мышачка папала.

Што вы, што вы, а бадай вас!
Не ўсьлядзіш за ўсімі,
Я-ж казала накрыць млека
Дэчкамі малымі!

Будзеце зато бяз млека,
Самі вінаваты...
Ну, а ці-ж дасталі мышку,
Выкінулі з хаты?

Эй, не, мамка, мы, сабраўшысь,
Гэтак парашылі:
Каб злавіць яе—у збан той
Коціка ўпусьцілі.

**Альбэрт Паўловіч.**

### Задача № 2.

Якія эўропэйскія рэкі ёсьць у гэтых выразах.

1. Учора мне ва ўсім была ўдача.
2. Рэ і до—назва нот.
3. Цёмная хмара навісла над намі.
4. За свайго каня Арцём заплаціў дорага.
5. Сёньня мне Маня прынесла ад доктара лякарства.
6. Конь і вол Гаўрылы ўжо прадэны.

### Задача № 3.

(Дз. Міхалкі).

З кожнага з наступных сказаў узяць па аднаму толькі слову і злажыць з гэтых слоў сказ, узяты з аднэй піонэрскай песьні:

1. Мы выпісалі часопісь „Беларускі піонэр“.
2. Заўжды так бывае—скупы двойчы губляе.
3. Наш атрад у паход гатоў.
4. Пастаў на шапцы свае літары, бо можаш падмяніць яе чужой.
5. Свае сваіх не пазналі.
6. Маіх бацькоў няма дома.

### Задача № 4.

Літары квадрату перастаўце так, каб можна было прачытац зьверху ўніз і зьлева направа 4 словы, маючыя значэньне: 1) густ; 2) сел-гаспадарчая прылада; 3) гутарка; 4) хлебная расьліна.

| | | | |
|---|---|---|---|
| а | а | а | а |
| а | в | в | ё |
| к | к | м | м |
| о | с | с | с |

### Яго даклад аб Парыскай Комуне.



— Таварышы! Мы, піонэры, добра помнім гэты крывавы дзень 18 сакавіка 1871 г... Мы не забыліся яшчэ генэрала Галіфэ...

**Адзін другога разумней.**

— Ці ня можна пазычыць у вас рубля лішняга, з якім вы ня ведаеце, што рабіць?

— О, ёсьць адзін.

— Дзякуй! Але-ж выбачайце: ён фальшывы!

— Ну, то вы-ж і прасілі такога, з якім я ня ведаю, што рабіць...

### Дыскусуем.

У Менскім атрадзе пры Саюзе Прац. Асьветы заняліся вывучэньнем пастаноў XIV парт. зьезду.
*(З допісу).*




— Т. Лектар! Што гаварыў К. Маркс аб ролі серадняка і кулацкіх тэндэнцыях?

— Пачакайце, пачакайце, хутка адшукаю яго пункт погляду...

## Жарты.

— Ну што, Базыль, умееш чытать, пісаць?

— Не, але вось лічыць дык умею.

— Ну, пакажы свае веды!

— Двойка, тройка, чацьвёрка...

— Стой, стой, даражэнькі! Да якога-ж ліку ты ўмееш лічыць?

— Да самага туза...

— Юрачка, ты прышоў да нас у госьці і так мала ясі? Ты заўсёды так мала ясі?

— Не, толькі тады, калі кепскі абед.

Хлопчык.—Тата прыслаў мяне да вас папрасіць разьмяняць яму 10 рублёў.

— А дзе-ж дзесяць рублёў.

— Тата прышле іх вам праз два тыдні.




(Горака).

**Падумай, разьвяжы і выканай.**

# НАША ПЕРАПІСКА.



**А. Савічу.** Твае апавяданьні „Янка Шпак“ і „У непагоду году“ будуць надрукаваны. Першае зьмяшчаецца ў № 4 „БП“. Рэдакцыя чакае ад цябе апавяданьняў з жыцьця дзяцей і піонэраў. Пісаць ты можаш, як відаць з прысланых ужо матэрыялаў.

**А. Глінскай.** Твая інсцэніроўка „Супроць папоў“ рыхтуецца да № 4 „БП“.

**А. Перанецкаму і П. Лапотка.** Ваш „Кірмаш“ слабы і па сужэту і па тэхніцы. Аб гэтым ужо былі напісаны апавяданьні (гл. № 1 „БП“ за 1924 г.). Чыбярэце другую тэму і больш працуйце над ёй. Чытайце лепшыя творы, якія можна ўзяць за ўзор і па тэхніцы пісаньня і па разьвіцьці сужэту.

**Ул. Кавалёву.** „Шчаняты“ друкавацца ня будуць. Ня скажам, што дрэнна напісана, але зьмест панашаму даволі штучны. Цяжка пісаць гістарычныя рэчы, ня будучы добра азнаёмленым з імі. Лепш бяры тэмы з сучаснага жыцьця, якое ты сам добра ведаеш.

Сувязь з дзядзькам Ігнатоўскім можна наладзіць шляхам перапіскі з ім па адрасу: *Менск, Інбелкульт, Ігнатоўскаму.*

**М. Горану.** Вось што, браток. Лепш напішы ты на гэту тэму апавяданьне. П'еска ў цябе не ўдалася. Каб напісаць добрую п'еску, трэба ведаць тэхніку пісаньня драматычных твораў. Найчасьцей лепш усяго пісаць драматычныя творы колектыўна, што дае больш магчымасьці для іх апрацоўкі.

**Б. Драпкіну**—„Клюбны дзень павінен быць“, *Е. Наст.*—„Жарты“, *Ліпкінду*—„Патрэбны гутаркі“, *І. Драпкіноу* — „Ня выконваем сваёй пастановы“, *А. Мацевічу*—„Політсуд над піонэрам“, *Чырвонаму злучніку*—„Выконваем сваю назову“, *С. Якубовічу*—„Перавыбары павадыроў“. „Наша сувязь з дапрызыўнікамі“, „Наш клюбны піонэрскі дзень“, *А. Тайбель*—„Працуем“, *Ул. Крачкоўскаму*—„Клад“, *В. Семіцкаму* — „Як мы організаваліся“, *М. Басевічу і Э. Каплану*—„Сувязь з шэфамі“, *К. Шавелю*—„У вялікодны вечар“, *Піонэру-Комсамольцу*—„Колектыўнае катаньне на каньках“, *Пэйсаховічу*—„Нашы курсы“, „Дзякуем шэфу“, *Волькінду*—„Зіма“, *Кату*—„Праца нашага атраду“, *К. Шавелю*—„Важная справа“—усе вышэйазначаныя допісы ня пойдуць.

## Хто адгадаў.

**Ігнатоўскі і Валіцын** адгадалі задачу, якая была зьмешчана ў 2 нумары „Беларускага Піонэру“.

Адказ:

Ярка на камінку
Смольны корч палае;
Бацька на калодцы
Лапаць падплятае.

(Верш Якуба Коласа.—„У школку“—першы куплет).

## За пашырэньне час. „Беларускі піонэр“.

Шкадарэвіч П. Я—піонэр 14 атраду імя Адамовіча, выпісваю „Беларускі Піонэр“ на 3 месяцы і выклікаю зрабіць гэта наступных таварышоў м-ка Капыля: **Бараноўскага Ж., Казлоў, Пекер Ц., Надэльсон Р., Разоўскага Ф., Малюковіч В., Каплан Л., Шэймовіч Э., Розіну Ё., Шкляр Д., Нусенсон Л. і Зарамбоўскага М.**, важатага атраду—падпісацца на 3 месяцы.

**А. Якімовіч.** Выпісваю для дзяцей сваёй вёскі 3 экз. часопісі „Беларускі Піонэр“ тэрмінам на 3 месяцы і выклікаю наступных таварышоў: **Курціка, Паваротнага, Кароткага, Нахімоўскую, Чэрвенскую, Гольбэрга** (аддзел друку ЦК ЛКСМБ), **Якуба Коласа, Я. Купалу, Цішку Гартнага, М. Чарота, Я. Пушчу, А. Бабарэку, А. Вольнага, М. Зарэцкага, Дуброўскага, К. Чорнага, А. Александровіча, Іл. Барашку, В. Маракова, Туміловіча, Звонака, П. Труса** (пісьменьнікаў поэтаў). **М. Пашковіча, Пратасэвіча, Шапялевіча, Самковіча, П. Ваўчэцкага, Мамчыца, Мельніка, Ахрамовіча, Бялугу** і ўсіх іншых знаёмых настаўнікаў, студэнтаў і журналістых—падпісацца ня менш як на тры экзэмп. на тры месяцы для школ і атрадаў сваіх вёсак.

**М. Лабадаеў.** Выпісваю часопісь „Беларускі Піонэр“—тэрмінам на 3 месяцы і выклікаю гэта зрабіць наступных таварышоў: Бараньнікаў, Ратнэр, Адзінец, Ліўшыц, Драбкін. Хорытановіч, Плучык, Галодка, Аўгусьціновіч, Клюйка, Крупіч, Капелюш (ЦК ЛКСМБ), Шабашова (Менск), Малевіча (Ворша), Растоўскую (Магілеў), Гаручка (Віцебск і Пішгалка (Барысаў).

Выданьне НКА БССР. Адказны рэдактар: **Рэдколегія.**

Праграмы выпярэдніцтва павінны быць пільна ўзгоднены ўрачамі для таго, каб ня ўносіць шкодных элемэнтаў.

Апрача таго, лічым неабходным падкрэсьліць, што гэтыя выпярэдніцтвы павінны будавацца, галоўным чынам, як падрахунак працы, а з гэтае прычыны ніякія віды падарункаў непатрэбны.

Заданьне кіруючых т.т.—добра падрыхтаваць піонэр-актыў як у сэнсе зразуменьня карысьці гэтых мерапрыемстваў, так і ў іх практычным зразуменьні.

У гэтым складаецца адна частка летняе працы піонэраў.

Ніжэй мы хочам высунуць яшчэ шэраг зусім новых форм працы з піонэрамі. Але неабходна наступная ўвага—мы не гаворым аб нутраным зьмесьце працы выхаваўчай таму, што гэтае пытаньне яснае і зразумелае.

### Вандроўныя лягеры, падарожжы, карыстаньне рознымі формамі перасоўваньняў.

Дзеці наогул, і піонэры ў прыватнасьці, вельмі захапляюцца ўсялякага роду падарожжамі-экскурсыямі, апісаньнямі гэтых падарожжаў і г. д. У нашай магчымасьці наладзіць для піонэраў такія падарожжы, пры гэтым яны павінны мець у сабе асноўныя мэты: краязнаўства і грамадзянская дзейнасьць.

### Вандроўныя лягеры.

Піонэр-атрад або некалькі атрадаў ставяць сабе мэту: прайсьці акружыну гораду, мястэчка, прыблізна, даўжынёю 10—30 вёрст з тым, каб на гэта вандраваньне пашло 2—3 дні. Праходзячы адлегласьць ад аднаго якога-небудзь вызначанага пункту да другога, робіцца адпачынак. У час адпачынку, атрад павінен правесьці якую-небудзь грамадзянска-карысную справу: памагчы ўдаве, памагчы школе ў апрацоўцы зямлі, памагчы хаце-чытальні, намаляваць і распаўсюджыць абвесткі, наладзіць гульні-вечар для вясковых дзяцей і г. д.

Уночы піонэры павінны застацца начаваць у заселеных пунктах і толькі ў крайніх выпадках—у палатках.

Гэтая форма вандроўных лягераў можа быць выкарыстана для краязнаўчых мэт. Аб гэтым мы будзем гутарыць асобна. Правядзеньне вандроўнага лягеру павінна быць добра падрыхтавана. Трэба прызапасіць патрэбную колькасьць продуктаў і ўсе неабходныя для гэтага рэчы.

Уся вандроўка павінны быць пільна вытрыманы ў мэдыцынскіх адносінах. Нельга многа хадзіць, для вандроўкі браць толькі здаровых (ня хворых) піонэраў і г. д. Яшчэ да „вандраваньня“ трэба правесьці гутарку з бацькамі, растлумачыць ім аб мэтах гэтае справы, каб з іх боку ня было ніякіх перашкод.

### Падарожжа.

Найбольш складаным і разам з гэтым больш цікавым, чым звычайная „вандроўка“, можа быць падарожжа піонэра аднаго гораду ў другі, з аднаго мястэчка ў другое, з мястэчка ў горад і г. д.

Зьмест падарожжа заключаецца ў наступным: піонэр-атрад, добра падрыхтаваўшыся да свае справы, намячае пераход з свайго гораду ў бліжэйшы другі (за 60—80 вёрст). Таксама, як і пры вандроўцы, павінен быць мэдыцынскі выбар. Лепш усяго было-б, каб выбіраліся групы піонэраў аднаго ўзросту, аднэй вытрыманасьці.

Таксама павінны быць зараней дасьледваны шлях і складзены плян пераходу.

Сам пераход можна зрабіць больш разнастайным тым, што можна праводзіць яго па вадзе і па зямлі...

Вынікі падарожжа пры ўмелым правядзеньні будуць заключацца ў азнаямленьні з мясцовасьцю, зблізэньні піонэраў гэтых мясцовасьцяй і інш. Мы толькі павінны яшчэ раз папярэдзіць, што з гэтаю формаю працы трэба быць вельмі асьцярожнымі.

Тэрмін падарожжа не павінен перавышаць 8—10 дзён.

*(Аб іншых момантах—у чарговым нумары).*

---

## ЗЬМЕСТ.

# Бусьліны вырай

З-за сіняга мора, з далёкай краіны
Ляцеў па-над хмарамі вырай бусьліны.
І вось двое буслоў маладых
Спыніліся ў нас. А іншыя—хто куды.
Буслы, зразумела, ня зналі яшчэ тутэйшых парадкаў,
І вось бусьліха і кажа буслу:



— Як-жа мы будзем жыць тут, братка.
— Клёк, каля-лёк,—абазваўся ёй бусел,
Прыглядзімся, як тут жывуць у Беларусі.
Так і мы будзем жыць, пажываць,
Працаваць і дзяцей гадаваць.

Бусьліха, бязумоўна, дала сваю на гэта згоду,
Каб праведаць пра жыцьцё тутэйшага народу.
Тады пасталі яны на ліпе, на верхавіне,
Глядзяць і дзівяцца: куды вокам ня кінеш—



Усюды барабаны барабаняць,
Шагаюць па вуліцах дзеці ў чырвоным убраньні.
Наперадзе большыя,—адзін ці пара,
За імі малыя з песьнямі шпараць.
Зірнулі на поле—там хлопцы й дзяўчаты працуюць—

Аруць, бульбу садзяць, баранаюць.
Усе адзелі чырвоныя рубашкі,
Вясёлыя, відаць, што працуюць ня цяжка.

— Дык вось, Клекатун, як жывуць тут людзі...
Давай-жа і мы жыць гэтак будзем.
Ты вось маёй прапановы паслухай:

На ліпе мы зробім гняздо з пацярухаў,
Чырвонымі кветкамі добра ўпрыгожым,
На шыі адзенем мы кветачкі з рожы,

Так, як гэтыя людзі і дзеці,
І будзем жыць сабе весела на сьвеце.

Я буду за матку, ты—тата,
Будуць у нас дзеткі-бусьлята.
З іх мы зробім вялікі атрад,—
Я буду рада і ты будзеш рад.
На гэтым буслы парашылі. Гэтак і зрабілі.



Цяпер вось бачыце: буслы і бусьлята
Ходзяць па балоце цэлым атрадам.
Замест барабана, у іх рэшата,
А то й языком барабаняць зрэшты.



Плян працы абгаварылі яны на агульным сходзе
І жывуць сабе, як піонэры, у добрай згодзе.

Таксама займаюцца й працай,—
Умеюць добра з шкоднікамі палёў і балот змагацца.

Словам, жывуць, як піонэрскі народ,
Працуюць, растуць і шагаюць ўпярод!

**А. Ч.**






Менск, 1-я друкарня „ДВБ" Зак. № 2285—1800 экз. Галоўлітбел № 17063.